НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

№ 14 (755) 11 красавіка 2012

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕ

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднё



## Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!

**Каталікі казалі гэтыя словы 8 красавіка, праваслаўныя скажуць у нядзелю.**
**Старонка 2.**

# Пакаленне LAST

Тыя, каму **цяпер за 30** (плюс-мінус 5 гадоў), — гэта апошняе пакаленне беларусаў. Піша Усевалад Сцебурака. **Старонка 7.**



Тэндэнцыі

## Лукашэнка апелюе да Бенедыкта XVI

«Сяму-таму хочацца ўбіць клін і ў нашы **адносіны з Папам»**.

Аляксандр Лукашэнка зноў заявіў, што Папа можа ў недалёкай будучыні наведаць Беларусь. Пра гэта ён сказаў 10 красавіка на сустрэчы з апостальскім нунцыем Клаўдыа Гуджэроці.

«Я сачу за сродкамі масавай інфармацыі як унутры Беларусі, так і за межамі нашай краіны. Сяму-таму хочацца ўбіць клін і ў нашы адносіны з Папам. Павінен сказаць, што не ўдасца».

«Яшчэ раз хачу падкрэсліць, што мы заўсёды разлічвалі на актыўную падтрымку і дапамогу Каталіцкай царквы. Я ведаю, што Папа, добра разбіраючыся ў палітыцы, ведае, што адбываецца на тэрыторыі Беларусі, і выдатна разумее, што тыя тысячы каталікоў, якія жывуць тут, маюць патрэбу ў яго штодзённай падтрымцы і абароне», — сказаў Лукашэнка.

За дзень да гэтага Лукашэнка прымаў пасла Суверэннага Мальтыйскага Ордэна Паўля Фрыдрыха фон Фурхера. На гэтай сустрэчы беларускі лідар папракаў Касцёл за недапрацоўку наладжвання добрых адносінаў паміж Мінскам і Еўрасаюзам.

Незадоўга да такіх заяваў быў апублікаваны артыкул супрацоўнікаў аналітычнага цэнтра BISS Аляксея Пікуліка і Дзяніса Мельянцова, у якім наўпрост прапаноўвалася, каб менавіта Ватыкан стаў пасярэднікам паміж Еўрасаюзам і Лукашэнкам.

**Зміцер Панкавец**

Палітыка

### «Мы ўжо паглядзелі на ваш электарат»

Пралетарыі падалі ў суд на Івашкевіча і Уса. **Старонка 3.**



Грамадства

### Марына Шубіч: «Усё добра — бегаем, ходзім»

Гадавіна тэракта ў метро. **Старонка 6.**



Тэма

### Гадзіннік Кірыла

Праваслаўная царква перапрашае за фатаграфію Breguet. **Старонка 9.**



Гісторыя

### Толькі адзін беларус узначальваў спецслужбы БССР

Быў гэта Піліп Мядзведзь. **Старонка 13.**



# Дар жыцця

«Дарагі, схіляюся перад тваёй мужнасцю і ахвярнасцю [галадоўка], але ты выбраў не той шлях». Велікодны зварот **а. Аляксандра Надсана**.



*Хрыстос васкрос!... усюды радасць,*
*Усё глядзіць смялей, святлей;*
*Вялікі Мучанік, здаецца,*
*Абняў усіх ласкаю сваей.*

Гэтыя словы Янкі Купалы выдатна аддаюць радасць вялікага свята, сутнасць якога, паводле велікодных царкоўных спеваў, у тым, што, падобна Майсею, які вывеў абраны народ праз Чырвонае Мора з егіпецкай няволі да свабоды, Госпад Ісус Хрыстос перавёў усіх нас «ад смерці да жыцця і ад зямлі на неба». Такім чынам Вялікдзень — гэта аднаўленне ўсяго стварэння ў Богу праз Ісуса Хрыста. Не дарма святыя айцы называлі яго актам нована тварэння.

Радасць вялікага свята не павінна, аднак, даць нам забыць, што Велікодную Нядзелю апярэджвала Вялікая Пятніца, калі Госпад Ісус Хрыстос павіс на крыжы, фальшыва абвінавачаны тымі, што ўважалі сябе духоўнымі правадырамі народа, і асуджаны на смерць суддзёю, каб дагадзіць абвінаваўцам, хоць сам не знайшоў у Ім ніякай віны. Ні суддзя, ні абвінаваўцы не падазравалі, што засудзілі на смерць Таго, каго магіла не магла ўтрымаць і хто сказаў пра сябе: «Я — дарога, і праўда, і жыццё».

Крыжовая смерць Хрыста дае нам шмат да развагі над смяротным пакараннем. Жыццё — гэта найвялікшы дар Божы, і толькі Бог можа забраць яго ў свой час.

Гэта не азначае, што той, хто зрабіў злачынства, не павінен быць пакараным. Але пакаранне павінна быць спалучана з міласэрнасцю, каб даць магчымасць асуджанаму ўсвядоміць сваё злачынства і пакаяцца. Важна таксама мець на ўвазе тое, што пакаранне смерцю ў выпадку памылкі нельга папраўіць. Хрыстос сказаў: «Не хачу смерці грэшніка, але каб ён пакаяўся і меў жыццё вечнае», а сваёй смерцю на крыжы Ён асудзіў смяротнае пакаранне.

Жыццё — гэта дар Божы, і таму чалавек не можа адабраць яго не толькі ў іншага, але і ў самога сябе, у тым ліку праз галадоўку.

Звычайна на гэтае апошняе наважваюцца людзі моцнага характару, якім былі перакрытыя ўсе іншыя шляхі для дасягнення справядлівасці. Хацелася б сказаць такім людзям: «Дарагі, схіляюся перад тваёй мужнасцю і ахвярнасцю, але ты выбраў не той шлях. Табе трэба жыць на радасць тваім блізкім і на карысць той вялікай ідэі, якой ты адданы. І Бог табе дапаможа».

У гэты светлы і радасны дзень будзем прасіць Уваскрослага Хрыста, каб Ён даў палёгку і сілу духа тым, хто церпіць несправядліва, і суцяшэнне сем'ям тых, якія пацярпелі страту сваіх дарагіх, а ўсім — надзею лепшай долі для нас і нашай Бацькаўшчыны ў гэтым жыцці і вечнай радасці разам з Ім у будучым.

**а. Аляксандр Надсан, апостальскі візітатар для беларусаў замежжа, Вялікдзень 2012.**

**Вялікдзень і Радаўніца**

У тую нядзелю Вялікдзень адзначылі рыма- і грэка-каталікі, пратэстанты, а ў гэтую — святкуюць праваслаўныя. Усяночныя службы і працэсіі адбудуцца ў ноч на 15 красавіка ў храмах краіны.

У аўторак 24 красавіка, на дзявяты дзень пасля Вялікадня, беларусы ўшаноўваюць продкаў (Радаўніца). Панядзелак 23 красавіка будзе таксама выхадным, яго трэ будзе адпрацаваць у суботу 28 красавіка.

## Сціісла

**Вінаградава ўзялі пад каўпак**

Былога палітвязня змясцілі пад прэвентыўны нагляд на два гады. Абавязалі быць дома з 8-й вечара да 7-й раніцы, забаронена пакідаць горад без дазволу міліцыі. Прычына — частыя затрыманні Вінаградава за палітыку.

**У Лынтупах знеслі помнік Леніну**

Ён стаяў каля прахаднай спіртзавода.

**Расіяне скупляюць нават сайты**

Сайт зніжак Bongo.by купілі за $1 мільён. Купцом стаў лідар расійскага рынку — «Біглён».

**Ладуцька: Як пракарміць сям'ю ў Мінску**

5–6 мільёнаў рублёў трэба мужчыну, каб нармальна ўтрымліваць жонку і дваіх дзяцей, заўважыў старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька ў інтэрв'ю «СБ».

**Рафаэль Пуарэ можа ўзначаліць зборную Беларусі**

Французская мегазорка сусветнага біятлона правёў перамовы ў Мінску з кіраўніком КДБ Вадзімам Зайцавым, які адначасова кіраўнік федэрацыі біятлона.

**ЗП**

## Адзе Райчонак — 75

Юбілей жанчына адзначыла 10 красавіка. Ада Райчонак заснавала недзяржаўны музей у Германавічах (Бешанковіцкі раён), ладзіць мастацкія пленэры, бардаўскія фестывалі, навуковыя канферэнцыі, узначальвае культурна-асветніцкі цэнтр імя Драздовіча.

**Віншаванні праз nn.by**

Паважаная Ада Эльеўна! Ад усёй душы віншую Вас з юбілеем! Зычу Вам моцнага здароўя. Няхай збудуцца ўсе Вашы мары. Ваш былы вучань, выпускнік 1968 года Слабадской СШ Лысёнак Васіль, выкладчык тэхнічных прадметаў Лідскага каледжа, пенсіянер. Даўно мару пабываць у Вашым музеі.

**Васіль Лысёнак**

Найлепшыя пажаданні ад нашай сям'і! Няхай спраўдзяцца вашы жаданні на доўгія гады служэння Бацькаўшчыне. Няхай у вас заўжды захоўваецца энтузіязм і каб давялося пажыць у вольнай Беларусі! Натхнення, творчасці і дабрабыту!

**Леанід Гаравы**

У чэрвені 1988 я разам з цудоўнай Людмілай Дучыц у Шаркаўшчыне на аўтастанцыі чакалі аўтобус на Глыбокае. Народу было няшмат, таму жанчына з размаляваным дываном звярнула маю ўвагу. «Людміла Уладзіміраўна, гэта ж твор Язэпа Драздовіча», — сказаў я. «Так», — адказала яна і жанчына. Жанчынай была спадарыня Ада Райчонак. Вось гэтае знаёмства — адно з самых памятных у маім жыцці. Потым былі сустрэчы ў Германавічах і Браславе. Сто гадоў, паважаная спн. Ада! Даруйце, што жыццё не спрыяе нашым асабістым сустрэчам. Але найважнейшым ёсць наш супольны беларускі дух і справы.

**Генадзь Семянчук**



## Свініна падаражэла на 40% за некалькі тыдняў

**Хітрасць мясакамбінатаў:** пачалі рассякаць свінню не напалам, а на чвэрткі.

Нягледзячы на рэгуляванне цэнаў, свініна змудрылася ў крамах падаражэць. Замарожаная кавалкамі, з косткамі, скурай і салам — да 40–43 тысяч, выразка і шыя — па 55–93 тысячы.

Хітрасць у тым, што секчы свінню пачалі не напалову або трацінy (тут ціны рэгулюе Мінэканомікі), а на непадуладныя кантролю чвэрткі. Называюць гэта мясакоснымі паўфабрыкатамі і ўсталёўваюць адвольную адпускную цану.

Паводле дадзеных нашых вытворцаў, сабекошт вытворчасці кілаграма свініны ў Беларусі — 3,25 даляра. Між тым сусветныя пастаўшчыкі свініны — Канада, Данія, ЗША і Бразілія — аж просяцца, каб у іх свіныя паўтушы купілі па 2 даляры за кілаграм (чытай — 16 тысяч рублёў).

Вось такія парадоксы, калі ў гаспадарцы няма гаспадароў.

**Сяргей Гезгала**

## Згарэла на рабоце

Раптоўна памерла намесніца міністра працы **Валянціна Каралёва**.

Гэта здарылася 7 красавіка. Прычына смерці не паведамляецца. Валянціна Каралёва нарадзілася ў Брэсцкай вобласці. У 1977 скончыла Мінскі фінансава-эканамічны тэхнікум, юрыдычны факультэт БДУ (у 1985) і Акадэмію кіравання пры прэзідэнце (у 2008). На пасаду намесніка міністра была прызначаная 14 жніўня 2008. У сістэме сацыяльнай абароны Валянціна Каралёва прапрацавала 35 гадоў.

Супрацоўнікі міністэрства расказваюць, што Каралёва ўжо пэўны час пачувалася кепска, але яе ўсё не адпускалі падлячыцца. Яна была перагружаная працай і не было каму падмяніць яе.

**МБ**

**Самае чытанае на nn.by за 4—10 красавіка**

1. Праваслаўная царква перапрашае за фатаграфію гадзінніка Breguet
2. Пакаленне LAST
3. Гадзіннік патрыярха Кірыла ў фотажабах і карыкатурах
4. Гадзіннік патрыярха Кірыла — фотафакт
5. Дзеля будучыні Беларусі
6. Як выглядае мінскае жыццё «пабагатаму» знутры
7. «Беларусы — гэта еўрапейская частка рускіх» — відзаапытанне
8. Памерла Арына Вячорка
9. Што масквічы знаходзяць у Мінску?
10. Сабчак счапілася з Хаматавай праз Пуціна на цырымоніі «Нікі»

# «Прывучыць гэтых людзей, каб больш не наносілі шкоды»

**Пралетарыі падалі ў суд Віктара Івашкевіча і Дзмітрыя Уса.**

4 красавіка тэлеканал «Беларусь-1» агучыў інфармацыю, што работніца Мазырскага НПЗ Марына Цыбліенка падала позву ў суд на апазіцыянера Віктара Івашкевіча. Жанчына патрабуе 500 тысяч рублёў для кампенсацыі маральных стратаў, якія нібыта нанеслі ёй заклікі Івашкевіча аб байкатаванні айчынных нафтапрадуктаў.

«Справа ў тым, што нам таксама трэба абараняцца. Мы простыя людзі і хочам працаваць», — кажа спн.Цыбліенка. Яна хоча, каб Івашкевіч адмовіўся ад сваіх словаў. У навінах паведамлялася, што палітыку абмежаваны выезд з тэрыторыі Беларусі.

### «Каментары даваць не будзем»

Марына Цыбліенка працуе апаратаркай камп'ютара ў цэху №12 НПЗ. Таксама яна кіруе пярвічнай прафсаюзнай арганізацыяй цэха.

Мы патэлефанавалі Марыне Дзмітрыеўне, каб з першых вуснаў пачуць яе пазіцыю. На першы званок адказаў яе муж Міхаіл, які сказаў, што жонка накіравалася ў цырульню. Папрасіў перазваніць праз дзве гадзіны. У вызначаны час зноў набралі патрэбны нумар, адказвае ўсё той жа голас.

«Ведаеце, мы пачыталі ваш сайт і я забараніў жонцы даваць інтэрв'ю, — кажа Міхаіл Цыбліенка. — Я паглядзеў каментары людзей, якія вы прапускаеце. Нехта вось выступаў, я глядзеў... Там адны абразы, жахліва. Нармальныя людзі вас не чытаюць. Я паглядзеў, як на нармальных выступоўцаў ліецца бруд. Хоць ты вешайся нармальнаму чалавеку. Гэта нам трэба? Не, дзякуй. Мы ўжо давалі камментар «Хартыі-97» і паглядзелі на ваш электарат. У вас таксама апазіцыйнае выданне. Я пачытаў. Выбачайце, каментары даваць не будзем».

### Французскі адпачынак

Усе спробы хоць неяк пераканаць пару Цыбліенкаў паразмаўляць поспехаў не мелі. Давялося шукаць з іншага боку. Марына Цыбліенка з'яўляецца актыўнай карыстальніцай сацыяльных сетак. Яе акаўнты маюцца на «Аднакласніках» і «Вконтакте». Прынамсі, на першай пляцоўцы яна не пакінула незаўважным свой пазоў.

Марына Цыбліенка падзялілася спасылкай з сайта ppomnpz.com, дзе размяшчаецца яе пазоў супраць Івашкевіча. «Людзі, чытайце, будзьце ў курсе таго, што адбываецца», — прапануе сваім сябрам жанчына.

«Маўчаць нельга — маўчанне знак згоды. Гэтыя апазіцыянеры адпрацоўваюць тое, што ім з Заходу праплаціў», — выказваецца работніца НПЗ. Калі меркаваць па старонцы «Вконтакте», то і сама Марына Цыбліенка не супраць наведаць гэты загнілы Захад, ёсць здымкі з адпачынку ў Францыі і Іспаніі.

**«Мы ўжо паглядзелі на ваш электарат»**



Марына Цыбліенка каля каруселі ў французскім гарадку.




Аляксей Емяльянчык верыць, што Ус адкліча назад свае патрабаванні.

### Емяльянчык на Уса

Праз два дні пасля пазову супраць Івашкевіча аналагічным чынам у суд Ленінскага раёна Мінска звярнуўся майстар змены цэха «Капралактам-1» ААТ «Гродна Азот» Аляксей Емяльянчык.

27-гадовы хлопец у эфіры «Беларусь-1» выказаўся супраць эканамічных санкцый у дачыненні прадпрыемстваў, а матывацыяй свайго пазову назваў жаданне «правучыць» апазіцыянераў, «каб больш не наносілі шкоды». Емяльянчык спадзяецца, што Ус звернецца паўторна да еўрапейцаў, каб адклікаць свае патрабаванні.

У цэху на «Азоце» паклікаць да тэлефона Аляксея не захацелі. Калі папытаўся, як яны ставяцца да ягонай ініцыятывы, у трубцы прагучала: «Без каментароў».

### «Вясновае абвастрэнне»

Сам былы кандыдат у прэзідэнты і палітвязень Дзмітрый Ус наступным чынам рэагуе на падзеі: «Вясновае абвастрэнне. У мяне такое ўражанне, што гэты хлопец нават не бачыў майго звароту да еўрапейскіх структураў, яму проста загадалі так зрабіць».

«На свае вочы пазову пакуль не бачыў, — кажа Ус. — Маё меркаванне было наступным: санкцыі трэба ўводзіць супраць алігархаў, што ўтрымліваюць Лукашэнку, а не супраць заводаў і прадпрыемстваў».

Дзмітрый Ус 19 сакавіка звярнуўся з асабістым зваротам да Рады міністраў ЕС і вярхоўнага прадстаўніка ЕС па замежных справах і палітыцы бяспекі Кэтрын Эштан. Ён лічыць, што санкцыі прывядуць да жорсткіх і хуткіх эканамічных і палітычных рэформаў, зменаў у сферы правоў чалавека і лібералізацыі Выбарчага кодэкса.

### Як цкавалі Сахарава

Пралетарскі гнеў нагадвае падзеі савецкага мінулага, калі рабочыя ў прэсе цкавалі людзей, нязгодных з існуючай сістэмай. Напрыклад, акадэміка Андрэя Сахарава. Вось літаральна некалькі вытрымак з такіх лістоў.

«На працягу многіх гадоў Сахараў А.Д. праводзіў падрыўную дзейнасць супраць Савецкай дзяржавы...», «Мы, прадстаўнікі шматтысячнага калектыву рабочых Аўтазавода імя Ліхачова, як і ўсе людзі працы нашай краіны, абураныя і рашуча асуджаем паводзіны Сахарава, якія ўзводзіць паклёп на наш дзяржаўны і грамадскі лад, знеслаўляе палітыку савецкага народа», «Мы, хлебаробы, аднадушна падтрымліваем асуджэнне Сахарава буйнымі вучонымі нашай Савецкай Радзімы і выказваем сваё рэзкае абурэнне яго ўчынкамі і словамі».

У Беларусі пакуль абурэнне выказваюць не цэлыя калектывы, а асобныя яго прадстаўнікі.

### Забараніць партыі

Дарэчы, пазовы супраць Івашкевіча і Уса — гэта не адзіныя меры, якія заклікаюць ужываць супраць прыхільнікаў санкцый.

Дзяржаўнае грамадскае аб'яднанне «Белая Русь» заклікае забараняць партыі, якія выступаюць за санкцыі. З падобнай заявай таксама выступіў ЦК КПБ.

Даты судовых разглядаў справаў Івашкевіча і Уса пакуль не прызначаныя.

**Зміцер Панкавец**

# «У бліжэйшы час разгледжу гэтыя пытанні»

**Можна спрачацца, ці прычынай таму еўрапейскія санкцыі, але Аляксандр Лукашэнка загаварыў пра вызваленне палітвязняў.**

Тым не менш, адпусцяць толькі тых, хто «сам папрасіў памілавання». «У бліжэйшы час я разгледжу гэтыя пытанні. Проста ў бліжэйшы час. Мяне ніхто не папракне, што я свае абавязкі або абяцанні не выконваю», — адзначыў А.Лукашэнка на нарадзе па замежнай палітыцы.

Кіраўнік краіны сказаў, што гэтыя людзі «ўсвядомілі згубнасць уласнай пазіцыі і палітыкі ў дачыненні да ўласнай дзяржавы».

Таксама Лукашэнка заявіў, што ніхто не пісаў прашэнне пад ціскам, доказам гэтага ёсць адмысловае відэа. «Мне прадставілі інфармацыю, у тым ліку і відэа, дзе яны адкрыта і сумленна кажуць: «Гэта была наша воля».

«Хтосьці — адзін ці два — не захацелі пісаць. Добра, гэта іх выбар — хай сядзяць», — перадаваў словы кіраўніка краіны «Інтэрфакс».

Гэта не першае абяцанне такога кшталту, якое сыходзіць ад беларускіх уладаў. У лютым дырэктар дэпартамента Еўрапейскай службы замежных дзеянняў Гунар Віганд заявіў на сустрэчы з апазіцыяй у Мінску, што, магчыма, цягам бліжэйшых тыдняў выйдзе на волю нехта з ключавых палітвязняў. Прайшло два месяцы, але ўсе яны па-ранейшаму ў турмах.

Вядома, што прашэнні аб памілаванні пісалі кандыдат у прэзідэнты Андрэй Саннікаў і ягоная давераная асоба Зміцер Бандарэнка.

Закрануў Лукашэнка і пытанне вяртання ў краіну еўрапейскіх дыпламатаў, якія пакінулі Мінск у апошні дзень зімы. «Мы не супраць вяртання, але будзем разглядаць персанальна кожнага дыпламата». Селекцыю будуць праводзіць па ўзору «кепскі дыпламат» — «добры дыпламат» ці што?

«Але гэта не мае нічога супольнага з тым, што мы хочам перашкодзіць паслам. Гаварыць пра тое, што мы не пусцім, не выпадае. Нам з кімсьці гаварыць трэба? Трэба», — адзначыў Лукашэнка. Ён прызнаў, што дыпламатычны дэмарш нанёс краіне шкоду.

Калі вяртацца да словаў лідара краіны пра палітвязняў, то галадоўніка Сяргея Каваленку не вызвалілі, хоць і мелі магчымасць — разглядалася касацыйная скарга на прысуд. Каваленку прызначылі комплексную псіхіятрычную экспертызу, разгляд скаргі ж пакуль прыпынены.

**ЗП**

# Пяць фактаў з жыцця віцэ-прэм’ера Міхаіла Русага

Былы міністр сельскай гаспадаркі пайшоў **на павышэнне.**

Ён заняў віцэ-прэм’ерскае крэсла Валерыя Іванова, якога зрабілі дырэктарам «Беларуськалія».

### Працаваў у Кебіча

Русаму 57 гадоў, ён нарадзіўся ў Жыткавіцкім раёне. Працаваў аграномам і старшынёй калгаса на радзіме. У райвыканкамах Кармы і Стоўбцаў. Папрацаваў у Савеце міністраў яшчэ за Кебічам. Пры Лукашэнку сем гадоў узначальваў Міністэрства прыродных рэсурсаў. Пакуль не паставілі курыраваць сельскую гаспадарку.

### Звальнялі са скандалам

Пасаду міністра сельскай гаспадаркі Русы страціў са скандалам. Прычына адстаўкі гучала так: «За невыкананне даручэння кіраўніка дзяржавы і своечасовых выплат заробкаў рабочым аграпрамысловага комплексу і пагашэння пазык перад насельніцтвам, а таксама за фальсіфікацыю дадзеных па гэтых пытаннях». Разам з Русым звольнілі прэм’ера Навіцкага і віцэ-прэм’ера Папкова. Гэта было ў 2003, праз сем гадоў Русы зноў узначаліў гэтае ведамства.

### Абяцаў, а не паехаў

Скандал не перашкодзіў Русаму двойчы абірацца дэпутатам палаты прадстаўнікоў. Там ён ўзначальваў пастаянную камісію па праблемах чарнобыльскай катастрофы і экалогіі. Абяцаў Анатолю Лябедзьку разам з’ездзіць у Астравец на месца будаўніцтва атамнай станцыі, але не з’ездзіў. Разам з калегамі затое ездзіў у турнэ па Абхазіі і Паўднёвай Асеціі, але незалежнасць гэтых краёў так і не прызналі.

### У партыі Шарэцкага

Русы — адзін з нямногіх партыйцаў ва ўрадзе. Ён прадстаўляе Аграрную партыю, якую ў свой час узначальваў Сямён Шарэцкі. У 1995 Аграрная партыя мела 34 дэпутатаў Вярхоўнага савета. У 2008 дэпутатам змог стаць толькі сам Русы. У той самы год Русы змяніў у кіраўніцтве партыі журналіста Міхаіла Шыманскага.



**Міхаіл Русы (справа) і старшыня Магілёўскага аблвыканкама Пятро Руднік (у цэнтры) на хлебазаводзе.**

### Не верыў у крызіс

Падчас апошняга фінансавага і эканамічнага крызісу Міхаіл Русы запомніўся некалькімі яркімі заявамі. «Нелічу нашы цэны высокімі», — казаў міністр у маі летась, у самы разгар павышэння цэнаў. А потым дадаваў: «Не так моцна наш рубель і ўпаў». Ягонае міністэрства заяўляла пра гатоўнасць выцяснення імпартных прадуктаў. Праўда, так і не атрымалася.

**Зміцер Панкавец**

## Сілавікоў прыраўнялі да апазіцыі

**Міліцыянтам забаранілі** ездзіць у краіны Еўропы.

З чаго раптам было прынятае такое рашэнне, нідзе не каментуецца.

Аднак стала вядома, што МУС падпісала незвычайны дакумент. З гэтага моманту ўсім міліцыянтам, пачынаючы ад участковых і заканчваючы высокімі чынамі, забаронена ездзіць у Еўропу, піша «Камсамольская праўда ў Беларусі».

Шмат хто звязвае яго з санкцыямі Еўрасаюза, з-за якіх некаторыя міліцыянты, суддзі і пракуроры цяпер не могуць ездзіць у ЕС. Вось толькі каментаваць гэты сакрэтны дакумент у МУС адмаўляюцца.

«Без каментароў», — кажуць у прэс-службе.

«У Еўропу забаранілі выязджаць, а ў Турцыю, Егіпет — можна», — прызнаўся адзін супрацоўнік міліцыі.



**У Балгарыі цяпер не адпачнуць.**

Вядома, і раней, выязджаючы за мяжу, супрацоўнік МУС ці КДБ павінен быў узгодніць гэта са сваім начальнікам. Ён пісаў рапарт і праходзіў пэўную працэдуру. Але цяпер уведзеная поўная забарона і ніводзін рапарт не падпісваецца.

**ЛМ**

## Чавэс просіць Хрыста захаваць яму жыццё

На передвелікоднай імшы прэзідэнт Венесуэлы ледзь **не расплакаўся.**

«Аддай мне сваю карону, Ісусе. Аддай мне свой крыж, свой цярновы вянец, каб з мяне лілася кроў. Але дай мне яшчэ пажыць, бо мне трэба яшчэ шмат чаго для гэтай краіны і гэтага народа зрабіць. Не забірай мяне цяпер», — прасіў Чавэс са слязамі на вачах у сваёй малітве на перадвелікоднай імшы.

Ён прасіў Бога дараваць яму яшчэ жыцця, нават калі яно будзе прасякнутае болем.

Кіраўнік Венесуэлы перыядычна лётае на Кубу для сеансаў тэрапіі. Дакладны дыягназ і стан Чавэса не абвяшчаюцца. Аднак дактары, знаёмыя з медыкамі з кубінскага анкалагічнага цэнтра, сцвярджаюць, што хвароба прагрэсуе і Чавэсу засталося жыць ад сямі месяцаў да некалькіх гадоў.

Тым не менш, Уга Чавэс заявіў пра свой намер удзельнічаць у прэзідэнцкіх выбарах, запланаваных на кастрычнік гэтага года. Свайго праціўніка, кандыдата ад аб’яднанай апазіцыі Капрылеса, Чавэс паспеў назваць «подлай свіннёй». А падкантрольныя яму СМІ разгарнулі антысеміцкую кампанію: Капрылес хоць і каталік, але па кудзелі мае габрэйскую кроў.

Чавэс у сваім выступе на імшы прызнаў, што змагацца з нядужасцю, «якая для шмат каго азначае канец дарогі», цяжка, але паабяцаў выздаравець.

**Сяргей Гезгала**

**In memoriam**

## Арына Вячорка

14 красавіка 1961, Мінск — 9 красавіка 2012, Вільня.

Пайшла з жыцця Арына Вячорка — педагог, грамадская і культурная дзяячка, ініцыятарка адраджэння рыцарскага руху і гістарычнай музыкі Беларусі. Жонка Вінцука Вячоркі, маці Радаславы, Франака і Ружаны.

Каранямі яна была з Веліжа Смаленскай вобласці. Арына ўспаміала, як, прабыўшы лета ў дзядоў, дзеці набывалі там беларускі акцэнт, які мінскія расейскамоўныя бацькі старанна выводзілі.



Па адукацыі яна была матэматыкам. Падчас вучобы ў школе, а пасля ў БДУ, Ірына разам з Вінцуком Вячоркам, будучым мужам, Ларысай Сімаковіч, Сяргеем Дубаўцом і іншымі арганізавала першае беларускае нефармальнае згуртаванне новага часу — «Беларускую спеўнадраматычную майстроўню».

5 красавіка Арыне стала кепска ў віленскім аэрапорце. Яна збіралася ляцець у Барселону да старэйшай дачкі. У апошнія дні яна казала пра стомленасць, што яе не хапае на ўсе праекты. Сваякі доўга не маглі знайсці Арыну. Яе адвезлі ў шпіталь. Доктар канстатавалі інсульт. Яны ўвогуле сумняваліся, што жанчына здолее пратрымацца некалькі гадзін.

У коме Арына Вячорка знаходзілася чацвёра сутак.

Яе заўчасны сыход шакаваў людзей. «НН» смуткуе разам з яе роднымі і сябрамі.

### Спачуванні праз nn.by

Спачуваю і вельмі шкадую. Светлая памяць.

**Міхал Анемпадыстаў**

Мае шчырыя спачуванні спадару Вінцуку і усёй сям’і.

**Аляксандр Манцэвіч**

Нізкі паклон і словы спачування! Гэта вельмі вялікая страта!

**Уладзь Лабковіч**

Сумная вясна для беларусаў у гэтым годзе. Злятаюць, калі маглі б яшчэ жыць на зямлі, у вырай годныя дзеці зямлі нашай. Шкада! Спачуванні родным і сваякам!

**Васіль Грыбоўскі-Гурыновіч**

Вечны спачын!

**Уладзімір Сіўчыкаў**

Памятаю нашу апошнюю сустрэчу ў Мінску ў студзені, творчыя планы на вясну і лета. Нішто не прарочыла, што... вось так... Спачуваю сям’і, сябрам і аднадумцам. Вечная памяць гэтай вялікай жанчыне!

**Алесь Бразгуноў**

Не хапае словаў, каб выказаць свой смутак... Шчырыя спачуванні блізкім... Трымайцеся...

**Алесь Капуцкі**

Спачуванні сям’і і блізкім. Трымайцеся.

**Дар’я Каткоўская**

Вечны адпачынак дай ёй Пане, а святло вечнае няхай ёй свеціць. Няхай адпачывае ў спакоі вечным.

**Руслан Равяка**

Мае спачуванні родным і блізкім сп.Арыны. Цяжка губляць такіх добрых людзей!

**Сяржук Бахун**

Смуткуем. Спачуванні. Зямелька родная беларуская няхай будзе пухам светлай спадарыні Арыне.

**Павел, Таццяна, Кастусь Севярынцы**

Цяжка ўсведамляць, што Арыны ўжо няма з намі. Светлы і прыгожы чалавек. Смуткую разам з блізкімі!

**Уладзімір Ляхоўскі**

Светлая памяць! Вінцук, прымі шчырыя спачуванні.

**Сяргей Запрудскі**

Няхай зямля нябожчыцы будзе пухам, а светлая памяць па ёй не гасне. Шчырыя спачуванні родным і блізкім...

**З.Прэдка**

Спачуванні родным! Хай беларуская зямля будзе Арыначцы пухам!

**Вадзім Александровіч**

Шчырыя спачуванні сям’і і родным. Ды ўсім нам...

**Ірына Жарнасек**

Самыя шчырыя спачуванні ўсім родным і блізкім.

**Рыгор Кастусёў**

Самыя шчырыя словы спачування блізкім. Які невымерны жаль. Бог, відавочна, забірае лепшых.

**Алесь Шутаў**

Шчырыя спачуванні ўсім родным Арыны ад нашае сям’і.

**Андрусь Падлескі**

Вечная памяць светламу чалавеку.

**Марына Адамовіч**

Спачуваем усім Вячоркам, блізкім Арыны. Няма словаў... Можа, ёй не будзе ТАМ сумна, бо яна будзе разам з Таццянай Сапач. Молімся за іх дваіх. Вечная памяць.

**Вольга Цярэшчанка**

Мае спачуваньні дзецям, усім Арыніным родным і блізкім. Баюся, што рупліўцаў на нашай ніве ўжо не большае...

Лявон Баршчэўскі

Шчырыя спачуванні родным і блізкім Арыны. Добры і адкрыты быў чалавек.

Смуткуем.

**Ігар, Ганна. Аліна, Глеб Хлябы**

# Ці варта купляць акцыі Завода шампанскіх вінаў?

Беларусам прапануюць **240 тысяч акцый** праз IPO.

Ужо 2 мая кожны ахвотны беларус зможа набыць у аддзяленнях банкаў акцыі Мінскага завода пеністых (шампанскіх) вінаў. Гэта другая спроба публічнага размяшчэння акцый так званага «народнага IPO» у нашай краіне.

### Другі блін

Механізм правядзення IPO зусім новы для нашай краіны, але нескладаны. Падчас яго кампанія прапануе ўсім ахвотным набыць свае акцыі. Найчасцей у ім удзельнічаюць дробныя кампаніі, каб прыцягнуць грошы на далейшае развіццё. Вялікія кампаніі часцяком хочуць атрымаць праз «народнае IPO» публічную ацэнку сваёй дзейнасці. Калі купцоў шмат, то кампанія становіцца прывабнай для буйных інвестараў і можа неўзабаве выводзіць свае акцыі на біржы.

Год таму першай спробай стаў продаж насельніцтву акцый Барысаўскага завода медыцынскіх прэпаратаў. Першы блін пайшоў сабаку. Ахвотныя купілі ўсяго 223 акцыі па 476 тысяч рублёў — 0,17% ад аб'ёма, запланаванага кіраўніцтвам завода.

**Прыбытковасць Мінскага завода пеністых вінаў**

2009 — $3,3 мільёна. Дывідэнды — 284 рублі на акцыю.

2010 — $2,9 мільёна. Дывідэнды — 435 рублёў на акцыю.

2011 (1-3 кв.) — 2,8 мільёна. Дывідэнды — 0 рублёў на акцыю.

Беларуская кампанія EPAM Systems, якая займаецца распрацоўкай праграмнага забеспячэння, атрымала ў выніку IPO ў Нью-Ёрку $72 мільёны.

### Гульня ў акцыі на цвярозую галаву

Цяпер на авансцэну выходзіць Мінскі завод пеністых вінаў. Пакуль што ягоныя 100% акцый належаць дзяржаве. Беларусам прапануюць выкупіць 25% гэтага аб'ёму — на $5 мільёнаў.

Чым прадпрыемства можа быць цікавым беларусам? Яно насамрэч стала працуе «ў плюс», незалежна ад крызісаў ці перыядаў «стабільнасці» ў беларускай эканоміцы. Агульны прыбытак за тры гады склаў 9 мільёнаў даляраў. У выніку намінальны кошт адной акцыі, які яшчэ летась складаў 42 тысячы рублёў, цяпер складае 171 тысячу рублёў.

«Экспарт складае каля 1,8% ад аб'ёму прадукцыі, віны купляюць ЗША, Ізраіль, В'етнам і Польшча. Прычым за мяжой «Савецкае шампанскае» купляюць, разлічваючы на попыт з боку эмігрантаў», — кажа генеральны дырэктар прадпрыемства Леанід Краўчук. Што да сыравіны, то завод набывае яе перадусім у Малдове.

### Рызыка за ўласныя грошы

Бясклапотная карціна псуецца некалькі істотнымі рызыкамі. Кантрольны пакет акцый застаецца ў руках дзяржавы, таму вырашаць, ці налічваць дывідэнды насельніцтву, будуць чыноўнікі. За тры апошнія гады на кожную акцыю было выплачана... 720 рублёў, прычым летась (за тры кварталы) — ні рубля. З такой самай праблемай сутыкаюцца тысячы дробных акцыянераў па ўсёй краіне — і «Амкадор», і «Савушкаў прадукт», і іншыя прыбытковыя прадпрыемствы адмаўляюць у дывідэндах.

Дзяржава можа «правярнуць» і яшчэ адну махінацыю, зрабіўшы неўзабаве дадатковы выпуск акцый, каб прадаць іх замежнікам. Доля кожнага акцыянера ў такім выпадку зменшыцца ў некалькі разоў.

Праблемай стане і продаж сваіх акцый. Другасны рынак у Беларусі адсутнічае, таму і кошт акцый не будзе змяняцца штодзень, як у расійскіх ці заходніх кампаній.

### Прыклад астатнім

Для тых, каго магчымыя праблемы не хвалююць, трэба звярнуцца да зарэгістраванага ўдзельніка рынку каштоўных папер, напрыклад, у банкі, па афармленне дакументаў. За паслугі ў «Беларусбанку» і «Белаграпрамбанку» давядзецца заплаціць 90 тысяч рублёў. Пасля можна купляць акцыі па агучаным кошце. У «адны рукі» будзе прадавацца не больш за 1000 акцый.

Ад таго, ці скончыцца продаж акцый Мінскага завода пеністых вінаў поспехам, шмат у чым залежыць, ці будуць выходзіць на «народную прыватызацыю» IPO іншыя беларускія кампаніі.

**Ягор Марціновіч**



# Аўтавакзал «Маскоўскі» можа пайсці пад знос



**Адзін з першых праектаў 25-павярховага офіснага цэнтра. Аўтавакзал яшчэ не перашкаджае газавікам.**

**«Газпрам» хоча** пабудаваць на яго месцы свой гіганцкі офіс.

Мінгарвыканкам вядзе перамовы з «Газпрамам» наконт зносу будынка аўтавакзала «Маскоўскі». Вакзал, за будаўніцтва якога архітэктары атрымалі ў свой час дзяржаўную прэмію, быў з помпай адкрыты толькі 13 гадоў таму. Штодзень з яго адпраўляюцца 370 аўтобусаў у маскоўскім і віцебскім кірунку. «Гэта не ключавое транспартнае ядро, — апраўдваецца старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька. — Міжгароднія маршруты ў стане прыняць аўтавакзалы «Усходні» і «Цэнтральны». Што датычыцца прыгараднага накірунку, трэба толькі дабсталяваць аўтобусныя станцы на вуліцах Карбышава і Русіянава».

Прычына зносу аўтавакзала простая: тэрыторыю, на якой ён знаходзіцца, упадабалі расійцы. Некалькі месяцаў таму старшыня рады дырэктараў "Газпрама" Аляксей Мілер, канчаткова выкупаючы «Белтрансгаз», паабяцаў кампаніі пабудаваць новы офіс са спарткомплексам. Як высветлілася, расійцы ўпадабалі менавіта прэстыжнае скрыжаванне праспекта Незалежнасці і вуліцы Філімонава, дзе ўжо знаходзіцца аўтавакзал.

Чаму гэтае месца? Расійцы нібыта патрабавалі забяспечыць ім пляцоўку з беспрыпынкавым пад'ездам з боку Масквы. Але такіх месцаў у Мінску шмат, прычым незабудаваных.

Так ці інакш, чыноўнікі ўжо заварушыліся — па загадзе гарвыканкама разлічваюць страты кампаній, якія арандуюць памяшканні на вакзале, а «Мінскпраект» распрацоўвае канцэпцыю забудовы тэрыторыі. Апроч таго, на «Газпрам» хочуць «павесіць» будаўніцтва транспартнай развязкі на скрыжаванні праспекта Незалежнасці і вуліцы Філімонава, а таксама 2-3-павярховых «дамоў для шматдзетных сем'яў» у раёне праспекта Пераможцаў — вуліцы Вяснянка.

**ЯМ**

# Французскія гатэлі ў Мінску

Экс-дэпутат **Аляксей Ваганаў** даручыць кіраванне сваімі гатэлямі найбуйнейшаму гасцінічнаму аператару свету.

Беларуская кампанія «Лада ОМС-Інжынірынг» падпісала дамову з французскім гасцінічным аператарам Accor аб будаўніцтве ў Мінску двух гатэляў. Яна належыць экс-дэпутату Аляксею Ваганаву. Мільянер спецыялізуецца на бізнэсе ў сферы нерухомасці. Сярод яго іншых актываў – Восьмы канал і дылер аўтамабіляў «Нісан» «Юніён Мотарс».

Што да французскага Accor, гэта найбуйнейшы гасцінічны аператар свету, які кантралюе каля 4 тысяч гатэляў па ўсім свеце. У залежнасці ад «зорнасці» гатэлі кампаніі маюць адну з 10 назваў — ад люксавых Sofitel да бюджэтных Formule 1.

Мінскія гасцініцы будуць называцца «Нэватэль» і «Меркюр». Першы з іх з'явіцца ў складзе квартала «Чэрвеньскі парк» па вуліцы Маякоўскага. Чатырохзоркавы гатэль змяшчальнасцю 180 нумароў будзе каштаваць Ваганаву $50 мільёнаў. Трохзоркавы «Меркюр», які зойме гістарычны будынак Верхняга горада па вуліцы Зыбіцкай (Гандлёвай), абыдзецца ў $20 мільёнаў.

Абодва будаўніцтвы маюць скончыцца да пачатку Чэмпіянату свету па хакеі ў 2014 годзе.

**ЯМ**

### Удакладненне

У №13 (754) газеты «Наша Ніва» ад 4 красавіка 2012 на с.1 і с.5 у артыкуле «Мільянер са скальпелем» замест фотаздымка старшыні рады дырэктараў ААТ «Амкадор» Аляксандра Шакуціна была памылкова размешчаная фатаграфія генеральнага дырэктара прадпрыемства Валерыя Кандратчыка. Прычына была ў тым, што ён у фотаархіве агенцтва БелТА, у якога мы набылі здымак, быў падпісаны як фота Шакуціна. Прыносім прабачэнні за недакладнасць.

## Сцісла

### Талончык — 1500 рублёў

З 5 красавіка на 15% вырас кошт праезду ў сталічным транспарце. У рэгіёнах падаражанне склала 18% — з 1100 да 1300 рублёў. Тым часам у Мінску падаражэлі і некаторыя маршрутныя таксі — да 6000 рублёў.

### Тэхабслугоўванне даражэе на 12,8%

З 1 красавіка зноў падаражэлі камунальныя адлічэнні. Тэхнічнае абслугоўванне аднаго квадратнага метра кватэры будзе каштаваць 395 рублёў, а не 350 рублёў, як раней. Настолькі ж вырастуць і адлічэнні на капрамонт.

### Яшчэ трохі нафты

Новыя залежы вуглевадародаў адшукаліся ў Глускім раёне падчас працаў на свідравіне «Шумяціцкая №1». Праўда, радовішча малое. Прыток нафты папярэдне ацэньваецца ўсяго ў 20 кубаметраў у суткі. У год свідравіна будзе прыносіць прыбытак каля $2 мільёнаў.

### Спрэчка за Зялёны Бор

Мінгарвыканкам уключыў у рысы Мінска праектаваны мікраараён Зялёны Бор, які мае будаваць Юрый Чыж каля Калодзішчаў. Назва выклікала спрэчкі, бо гэтаксама называецца жылы квартал за гіпермаркетам «Бігз», каля вёскі Бараўляны. Тамтэйшы забудоўшчык, група кампаній «А-100», запатэнтавала словазлучэнне і патрабуе, каб квартал Юрыя Чыжа перайменавалі.

**ЯМ**

# Прысуд выкананы, пытанні засталіся

**Па-нармальнаму, ход расследавання такога тэракта павінна праверыць камісія з удзелам апазіцыі. Але для гэтага апазіцыя павінна быць у парламенце.**

Следчым спатрэбіліся некалькі дзён, каб заявіць пра затрыманне падазраваных у тэракце ў мінскім метро. Праз пяць месяцаў пачаўся суд. Апошнюю кропку ў гэтай гучнай справе паставілі за месяц да гадавіны тэракта. Адносная хуткасць працэсу, асабліва на пачатковай і завяршальнай стадыях, і выклікала большасць пытанняў, якія дагэтуль чакаюць адказаў.

### Поспех ці правал?

Улады называюць раскрыццё справы 11 красавіка поспехам. Яшчэ да абвяшчэння прысуду шэраг сілавікоў атрымаў узнагароды ад Лукашэнкі.

Аднак на справу можна паглядзець пад іншым ракурсам. Нават абапіраючыся пры гэтым выключна на матэрыялы следства, агучаныя ў судзе, можна сказаць, што поспехам тут і не пахне. Мяркуйце самі.

Згодна з матэрыяламі справы, Дзмітрый Канавалаў з падлеткавага ўзросту кшталтаваў сваё чорнае майстэрства, купляў выбухоўку на рынку і так і не патрапіў у поле зроку праваахоўных органаў. Няўжо такое магчыма? А калі магчыма, то ці зроблены высновы? А калі зроблены высновы, то ці адхілены ад пасад вінаватыя? Акрамя няшчаснага паставога ў метро і нядбайнага дактылографа? Аддзелы КДБ цяпер ёсць амаль ва ўсіх райцэнтрах — іх нашмат больш, чым нават у савецкі час. Пры гэтым у Беларусі не складае ніякіх праблем набыць выбухоўку.

Павальная дактыласкапія мільёнаў мужчын як спосаб выяўлення аўтарства выбуху 2008, па вялікім рахунку, таксама абярнулася правалам.

### Справядлівы прысуд ці судовая памылка?

Засталіся вялікія пытанні па псіхалогіі Канавалава. Хуліганства? Але прагу скалечыць, а то і забіць дзясяткі чалавек гэтым не патлумачыш. Што нарадзіла такія жаданні? У выніку чаго такое здарылася?

На гэтае пытанне наўрад ці ўдасца знайсці адказ у бліжэйшы час. А магчыма, што і ніколі. Бо ні Канавалава, ні Кавалёва больш няма ў жывых.

Справа Канавалава выявіла ўсю гніль следчай і судовай сістэмы, пры якой амаль не бывае апраўдальных прысудаў, але пры гэтым лёгка выконваюцца любыя палітычныя замовы. Пакуль Канавалаў узрываў (як цвердзіць суд), хтосьці сеў у турму за падпал кіёска, а хтосьці шэсць месяцаў правёў у СІЗА па падазрэнні ў арганізацыі выбухаў у Віцебску. Ды так, што дзеля алібі дагэтуль збірае чэкі ў крамах.

На жаль, трэба прызнаць, што мы маем справу з заганнай сістэмай, якая ў свой час спарадзіла так званую «віцебскую справу», калі за забойствы Міхасевіча былі расстраляны невінаватыя, а больш за дзесяць чалавек трапілі ў турму. Тая справа была пад кантролем Масквы, і мясцовыя следчыя са скуры лезлі, каб раскрыць яе.

А вось яшчэ некалькі прыкладаў з найноўшай гісторыі.

Год таму быў апраўданы жыхар Нясвіжа, асуджаны на 13 гадоў турмы за забойства. Ён правёў у няволі 8 гадоў. Міліцыянты, якія выбівалі з яго «прызнанні», і пракурор, што накіраваў справу ў суд, пайшлі на павышэнне.

У Віцебску група грамадзян дагэтуль патрабуе пакараць следчых, якія спрабавалі павесіць на падлетка забойства бамжа. У часе следства дзяцей на месяц адправілі ў Навінкі, садзілі іх у камеру да рэцыдывістаў і забойцаў (вам гэта не нагадвае справу Каваленкі, турэмную эпапею Саннікава і Дашкевіча? Метады тыя самыя). Віцебскія следчыя, як і іх калегі з Нясвіжа... пайшлі на павышэнне.

Спіс падобных гісторый можна доўжыць. Іх аб'ядноўвае некалькі характэрных момантаў. Следчыя імкнуліся любой цаной раскрыць справу. І нават калі справы развальваліся, яны былі ўзнагароджаныя, а не пакараныя.

### Чаму так хутка?

Хуткасць працэсу — ці не асноўная крыніца недаверу часткі грамадства, якая ставіць пад сумнеў вынікі справы. Гадамі не маглі злавіць, а тут затрымалі ледзь не праз суткі пасярод мегаполіса, сумняюцца многія. Хуткі расстрэл і знішчэнне рэчавых доказаў у гэтай частцы беларусаў пакінула ўражанне, якое можна апісаць словамі «канцы ў ваду».

Нават калі следчая брыгада сумленна зрабіла сваю справу, ці можна выключыць, што Канавалава проста «вялі» тыя, хто сапраўды зацікаўлены ў «дэстабілізацыі абстаноўкі»? На гэтую версію дзяржаўныя СМІ кіпяць праведным гневам: як можна такое думаць.

У дэмакратычных краінах пры падазрэннях на адрас спецслужбаў утвараюцца парламенцкія камісіі для расследавання, у якія ўваходзяць як прадстаўнікі ўладаў, так і прадстаўнікі апазіцыі. Гэта і дае гарантыю незалежнага разбору самых складаных недапрацовак. Пакуль такога механізма ў Беларусі няма, недавер да ўладаў будзе захоўвацца. Пакуль апазіцыя не будзе ўдзельнічаць у кантролі над спецслужбамі, веры не будзе.

### Няма людзей — а праблема ёсць

Здавалася б, пасля выбуху 11 красавіка мінскае метро павінны ўзяць пад пільны кантроль. Аднак з таго моманту ў падземцы адбыўся шэраг інцыдэнтаў — ад кур'ёзных да сур'ёзных. І калі фотасесію ў стылі «ню» можна ўспрымаць з усмешкай, то выпадак, калі адну са станцый проста забылі замкнуць на ноч, прымушае сур'ёзна задумацца.

Зрэшты, вопыт краін, дзе выбухі ў метро здараліся неаднойчы, сведчыць, што цалкам бяспечнай падземку зрабіць амаль немагчыма. Нам трэба ўсвядоміць: хто б ні ўзарваў метро год таму, ён тым самым уключыў Беларусь у своеасаблівы клуб краін, дзе ўсё можа здарыцца. І нам жыць з гэтай новай рэальнасцю.

**Сямён Печанко**



ДЗМІТРЫ БРУШКО, KP.BY

**Марына на выпускным — у цэнтры, у хустачцы.**

## Марына Шубіч: «Усё добра — бегаем, ходзім»

**Дзяўчына з Магілёва моцна пацярпела ў часе выбуху ў мінскім метро.**

Наш карэспандэнт дазваніўся Марыне Шубіч. Пяцікурсніца Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўніверсітэта, у той фатальны дзень яна везла ў метро частку сваёй дыпломнай працы. Падчас выбуху студэнтка атрымала апёк сятчаткі вачэй, пералом галёнкі і асколачныя раненні.

У першыя гадзіны пасля тэракта «НН», са спасылкай на знаёмых Марыны, апублікавала інфармацыю, што студэнтку адшукалі пазней за іншых і яна знаходзілася на станцыі яшчэ тады, калі на «Кастрычніцкую» спускаўся Лукашэнка. Пазней гэта было афіцыйна абвергнута, а публікацыя стала нагодай, каб распачаць працэс аб ліквідацыі газеты.

Марына Шубіч перанесла шэраг аперацый. На абарону дыплома яна здолела прыйсці без мыліц, танчыла і на выпускным. На пытанне, як яе здароўе цяпер, жыццярадасна адказала: «Усё добра — бегаем, ходзім». Зрок, паводле яе словаў, таксама палепшаў. Словы «усё добра, усё цудоўна» яна падчас размовы паўтарыла некалькі разоў. Марына нават арганізуе ў Мінску школу лацінаамерыканскіх танцаў. Было чутно, што тэлефанаванне заспела яе на вуліцы.

Але ад разгорнутай гутаркі дзяўчына адмовілася: «Я раней давала інтэрв'ю, цяпер не хачу, прабачце, калі ласка». Хоць і запэўніла, што ніякай крыўды на журналістаў у яе няма.

**Сяргей Мікулевіч**



## «Шкада іх, але...»

**Пацярпелая падчас тэракта перамагла наступствы трагедыі.**

Маргарыта Ярашэвіч — студэнтка БДУ. 11 красавіка 17-гадовая дзяўчына ехала на падрыхтоўчыя курсы — заканчвала школу і збіралася паступаць у ВНУ. Падчас выбуху ў метро яна атрымала шмат пашкоджанняў. У тым ліку былі пераламаныя абедзве нагі. Тры месяцы Маргарыта правяла ў бальніцы. Затым яшчэ праходзіла рэабілітацыю. Але трагедыя не перакрэсліла яе планы — дзяўчына паступіла на хімічны факультэт БДУ.

«Гэты год пайшоў на поўнае аднаўленне майго здароўя: бальніцы, аперацыя. А калі знаходжуся дома, то займаюся тым, каб не забыць матэрыял па хіміі, які прайшла ў школе. Мая будучая прафесія звязаная з хіміяй. А яшчэ вывучаю англійскую мову», — адзначыла Маргарыта.

Ад вынікаў судовага працэсу па справе тэракта ў яе засталіся дваістыя пачуцці.

«За судом сачыла, але прысутнічаць на ім не дазваляла здароўе. Ведаю, што іх [Дзмітрыя Канавалава і Уладзіслава Кавалёва] расстралялі. Шкада, бо яны былі зусім маладымі і ўсё жыццё ў іх было наперадзе. Але ў той самы час яны забралі жыцці ў многіх людзей, якія былі не ў той час не ў тым месцы».

**Сяргей Макарэвіч**

# Паўтара года зняволення за металалом

Былога палітвязня **Аляксандра Малчанава** зноў адправілі ў калонію.

Аляксандра Малчанава і Арцёма Ігнацікава затрымалі ў студзені ў Барысаве. Іх абвінавацілі ў крадзяжы металалому з тэрыторыі кавальскага завода цяжкіх штамповак у Жодзіне. 400 кг шрубаў і ржавых жалязяк ацанілі ў 737 тысяч рублёў. Хаця закінуты маставы кран на заводзе па замове самой адміністрацыі эксперты крыху раней ацанілі толькі ў 60 тысяч.

На працэсе міліцыянты заявілі, што былі сведкамі крадзяжу. Нібыта ім паступіў сігнал, што ў нейкі з дзён адбудзецца злачынства. Па сведчаннях міліцыянтаў, яны не сталі затрымліваць Малчанава і Ігнацікава на тэрыторыі завода. У выніку хапіла, за што іх пасадзіць.

Хаця на судзе адміністрацыя завода і не выказала прэтэнзій да маладых людзей, а ўласніка металалому так і не вызначылі, Малчанаў атрымаў не самае мінімальнае пакаранне — 1,5 года калоніі строгага рэжыму. Ён не прызнаў сябе вінаватым, бо лічыць, што збіраў смецце, а не краў заводскае абсталяванне, якім спрабавалі прадставіць той металалом. Ігнацікава асудзілі на 1,5 года ўмоўна з адтэрміноўкай на адзін год. Апошні прызнаў сябе вінаватым і раскаяўся.

«Наколькі я ведаю, у тым ліку і па матэрыялах суда, тое, што іх узялі «на гарачым», не выпадкова, — сказаў праваабаронца, юрыст Алег Мацкевіч. — Праслухоўваліся яго тэлефоны. Лічу, што гэта ёсць элемент помсты Малчанаву. Калі яго не здолелі асудзіць па адной справе (абразе дзяржсімвалаў), зрабілі тое па іншай. Ён малады, з абвостраным пачуццём справядлівасці, з патрыятычным пачуццём. Ён быў небяспечны хутчэй не для ўладаў Беларусі, а для мясцовых чыноўнікаў. Таму яго імкнуліся «закрыць»: каб не было ні бачна яго, ні чутна».

Аляксандр Малчанаў быў асуджаны па справе 19 снежня на 3 гады калоніі. Вызвалены ў верасні загадам Лукашэнкі. Прашэнне аб памілаванні не падпісаў. Пасля вызвалення ён

## Адміністрацыя завода прэтэнзій не выказвала

нейкі час правёў у ІЧУ Барысава — яго падазравалі ў абразе дзяржаўнага сцяга.

Пасля крымінальнай справы за Плошчу Аляксандра звольнілі з БелАЗа. Больш яго нікуды не бралі на працу — усе баяліся артыкула, па якім асудзілі. Аляксандр утрымліваў сваіх непрацаздольных бацькоў, якія цяпер засталіся без апякунства.

«Ён добры хлопец. І калі б не было сённяшняй сітуацыі ў краіне, ён стаў бы нармальным маладым прадпрымальнікам», — лічыць Алег Мацкевіч.

**Сяргей Макарэвіч**




**Аляксандр Малчанаў на волі пабыў нядоўга.**



## Пакаленне LAST

**Тыя, каму цяпер 30 (плюс-мінус 5 год), — гэта прадстаўнікі апошняга пакалення беларусаў. Піша Усевалад Сцебурака ў артыкуле, які выклікаў бурную дыскусію ў інтэрнэце.**

Ва ўсім свеце вядзе рэй пакаленне NEXT — але гэта не пра нас. Мы пакаленне LAST.

Не памыляюся. За намі ідзе ўжо не пакаленне беларусаў, але пакаленне грамадзянаў РБ. Ёсць сярод іх, безумоўна, адзінкі, якія праз сям'ю ці нейкія выключныя з'явы атрымалі невылечны вірус беларускасці. Але большасць з маладзейшых — гэта жыхары РБ, ды не беларусы. Так — яны негатыўна настроеныя да дыктатуры, так — яны значна больш цывілізаваныя, унутрана свабодныя, разумныя і перспектыўныя, але далёкія ад беларускасці людзі... Без крыўдаў, але гэта факт і гутарка тут не пра іх. Яны напішуць самі пра сябе пазней і на іншых мовах з дапамогаю ўсюдыснага гуглтранслейта. Ці будзе толькі ў тых радках «у нескладовае»?

Тут — пра іншае. Пра апошняе пакаленне, для якога «90-я Forever» (с).

Прадстаўнікі пакалення LAST — гэта людзі, якія заспелі трэцюю спробу беларусізацыі, пачыталі бел-чырвона-белых падручнікаў па гісторыі, скончылі беларускамоўныя школы і факультэты.

Прадстаўнікі пакалення LAST нарадзіліся ў Саўку, але пасталелі збольшага са свабоднай свядомасцю і праз гэта — з патэнцыйнай магчымасцю стаць сапраўднымі прадстаўнікамі нацыі без комплексу непаўнавартаснасці, «вясковасці», «малодшабратэрства».

Прадстаўнікі пакалення LAST падшпаркамі цягнуліся на дыбачках у натоўпах 96-й Вясны побач з легендарнымі дзядзькамі з Тутэйшых.

Прадстаўнікі пакалення LAST пайшлі з акцябратаў і піянераў наўпрост у Малады Фронт, «Край», БПС, беларускія скаўты.

Прадстаўнікі пакалення LAST слухалі Ulis, «Краму», NRM разам з «Нірванай» і «Дэпешамі» і вучылі бацькоў слухаць радыё «Свабода» «штовечар у жывым этэры»...

Прадстаўнікі пакалення LAST, сціскаючы кулакі ў падлеткавым максімалістычным запале, да слёз шкадавалі, што не ўдзельнічалі ў першых выбарах 1994-га. Так шчыра, як юнакі-пацідзесятнікі, шкадавалі, што не паваявалі ў Другую сусветную...

Прадстаўнікі пакалення LAST бачылі сапраўдныя сцяг і герб і памятаюць міліцыянтаў у канфедэратках з «Пагоняй» на цэшках, якія нікога не лупцавалі за БЧБ.

Прадстаўнікі пакалення LAST пад гітару спявалі Мельнікава і Воюша і верылі таму, што пяюць.

Прадстаўнікі пакалення LAST называлі сваіх дзяцей Вітаўтамі, а сабе бралі псеўданімы Альгерд.

Прадстаўнікі пакалення LAST проста верылі ў тое, што Беларусь можа быць беларускаю.

Прадстаўнікі пакалення LAST з'язджалі ў Штаты і спадзяваліся вярнуцца...

Калі так адбылося, што мары і надзеі неяк незаўважна распусціліся ў паветры як міраж? Нас падманулі? Мы не ўтрымалі?.. Не ведаю.

Ведаю толькі, што прадстаўнікі пакалення LAST будуць паміраць павольна і многія пакінуць, магчыма, не самую горшую памяць па сабе.

І толькі вельмі балюча ўсведамляць, што наша будучыня, праваліўшыся паўсляпым шчанюком у адкрыты люк, так і засталася забытая, пранізліва скуголіць недзе там у мінулым, якое няўмольна адыходзіць у далячынь...

## Сцісла

### Падтрымайце сям'ю Каваленкаў

Пасля таго як Сяргея Каваленку арыштавалі, яго жонка засталася з 8-месячнай дачкой і 7-гадовым сынам на руках без сродкаў. Сяргей быў адзіным, хто зарабляў у сям'і. Грошы можна высылаць паштовым пераводам: 210028, Віцебск, Маскоўскі праспект, д. 47, к. 1, кв. 57. Каваленка Алена Юр'еўна.

### Дзядка перавялі ў іншую калонію

Палітвязня Мікалая Дзядка 7 красавіка перавялі з Магілёва ў калонію №17 у Шклове. Пра гэта паведаміла жонка асуджанага Валерыя. Адміністрацыя адмовілася назваць прычыну пераводу. Сказалі толькі, што вышлюць родным афіцыйны дакумент.

### Статкевіча інфармацыйна блакуюць

Асуджаны палітык даслаў ліст, у якім напісаў, што пачуваецца нармальна, шмат чытае. Жонка палітвязня Марына Адамовіч адзначыла, што да Мікалая дрэнна даходзяць карэспандэнцыя. А заказныя лісты ўвогуле яму не перадаюць — прыносяць толькі пустыя канверты.

### З Саннікавым бачыўся адвакат

Па словах жонкі палітыка Ірыны Халіп, адвакат размаўляў з Андрэем Саннікавым каля трох гадзін. Працавалі над дакументамі, у тым ліку вывучалі справаздачу АБСЕ па падзеях 19 снежня. Пра сябе палітвязню расказваць забаронена. Адзначыў толькі, што на здароўе асабліва не скардзіцца.

**КМ**

## Кім: Лісты варта пісаць заўсёды

Лідар моладзі выказаўся **пра палітэмігрантаў** і вулічныя акцыі.

**«НН»: Ты быў у ліку тых, хто пасля хвалі рэпрэсій у канцы 2010 з'ехаў за мяжу. Падставы сапраўды былі важкімі?**

**Андрэй Кім:** Адназначна. Я некалькі разоў свядома адмаўляўся ад працы і вучобы за мяжой. Для мяне знаходжанне ў Беларусі — каштоўнасць. Тады, у снежні 2010, калі мяне пасадзілі на суткі за Плошчу, міліцэйскае начальства сказала, што на мяне заведуць крымінальную справу. А выпусцілі з сутак, напэўна, праз бюракратычную памылку. Бо ўжо на наступны дзень у маіх бацькоў правялі вобшук — мяне шукалі.

**«НН»: Але дзясяткі людзей застаюцца за мяжой. Што для Беларусі можна рабіць там?**

**АК:** Калі нехта думае, што іх місія — быць пасламі Беларусі за мяжой, гэта іх справа. Тут нельга агулам усіх ацэньваць. Я ведаю людзей, якія з'ехалі абсалютна беспадстаўна. А Наталля Радзіна ці Алесь Міхалевіч пакінулі краіну пад цяжарам пэўных абставінаў.

**«НН»: Як былы палітвязень скажы, што для асуджаных самае важнае ў якасці падтрымкі: лісты, вулічныя акцыі салідарнасці?**

**АК:** Лісты варта пісаць заўсёды. Кожны ліст са словамі падтрымкі дае сілы на некалькі дзён. Вулічныя акцыі салідарнасці, мяркую, цяпер не патрэбныя. У нас няма магчымасцяў, каб рабіць іх. А па сабе ведаю, што было б лепш, каб тыя 50 чалавек напісалі лісты, чым каб яны выйшлі на вуліцу і іх там пабілі. А так выходзіць, што тыя, хто ладзіў акцыі, мне не пісалі. Для палітвязняў важна ўсведамляць, што імі не гандлююцца Захад з Лукашэнкам, а што яны ёсць такім каменем на шыі ў рэжыму.

**«НН»: Сёння цiск на рэжым Лукашэнкі можа прывесці да вызвалення ўсіх палітвязняў, ці гэта спрацоўвае зусім наадварот?**

**АК:** Адзіная мэта Лукашэнкі — захаванне ўлады. Ён усведамляе, што галоўная небяспека сыходзіць ад Уладзіміра Пуціна. Еўрапейцы павінны пераканаць Лукашэнку, што калі той не пачне лібералізацыю, то еўрапейскае поле для палітычнага манеўра паміж Расіяй і ЕС знікне. І ў такім выпадку ён застанецца з Расіяй адзін на адзін. А гэта тое, чаго ён сам баіцца больш за ўсё.

**Кастусь Матушыч**

**Андрэй Кім**

Нарадзіўся ў 1986 у Мінску. У 2008 арыштаваны за ўдзел у акцыі пратэсту прадпрымальнікаў у Мінску —«справа чатырнаццаці». Асуджаны на 1,5 года за нібыта збіццё міліцыянта. Вызвалены праз восем месяцаў па загадзе Лукашэнкі. Пасля разгону Плошчы-2010 паўгода правёў за мяжой.



# Мілінкевіч зламаў руку, перанёс дзве аперацыі

«Нанізалі **косці на спіцы**, нібыта шашлык».

Былы кандыдат у прэзідэнты, лідар Руху «За Свабоду» Аляксандр Мілінкевіч 5 красавіка трапіў не ў самую прыемную сітуацыю.

«Выходзіў з ЦУМа, з таго боку, дзе падземны пераход. Там прыступкі крыху вышэйшыя, чым у астатніх месцах. Вось не падлічыў крокі. Зваліўся так, што ногі зверху, а галава знізу. Пры такім падзенні яшчэ добра, што толькі руку зламаў. Сам вінаваты», — кажа Мілінкевіч.

Потым да яго падбеглі людзі, сталі дапамагаць. Палітык кажа, што прытомнасць ён не губляў. «Пачалі падымаць. Адзін кажа: глядзі, дык гэта ж Мілінкевіч. Хацелі адразу адвезці мяне ў шпіталь, але я дачакаўся жонкі, якая была недалёка».


PHOTO.BYMEDIA.NET

**Мілінкевіч паваліўся на прыступках ЦУМа. Добра, што жонка была побач.**

У бальніцы спадару Аляксандру зрабілі дзве аперацыі, першую пры агульным наркозе. «Пералом складаны, плюс вывіх лакцявога сустава. Усё, што можна, сабралі. Нанізалі косці на спіцы, нібыта шашлык», — жартуе Мілінкевіч.

Кажа, што потым трэба будзе доўга распрацоўваць руку, каб вярнуць былыя рухі. «Толькі нядаўна з нагой адмучаўся, буў заціснуты нерв, цяпер вось новая траса».

Мілінкевіч вельмі задаволены працай персанала бальніцы №6. «Проста класны шпіталь. Абсталяванне як для дыягностыкі, так і для хірургаў добрае. І медсёстры, і дактары вельмі прыязныя».

Пакуль палітыка не выпісваюць, бо пасля ўдару трымаецца высокая тэмпература. Аднак сам Мілінкевіч спадзяецца, што хутка ўжо будзе дома.

**Зміцер Панкавец**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Былыя могілкі

Стала вядома, што хутка будзе ўзведзены велічны мемарыял у Трасцянцы пад Мінскам, дзе падчас нямецкай акупацыі быў адзін з найбольш жудасных фашысцкіх канцлагераў.

Амаль на тым жа месцы вось ужо з паўстагоддзя атручвае паветра велізарны гарадскі сметнік, пад якім, сцвярджаюць дасведчаныя гісторыкі, пахаваны ахвяры НКУС. Але там ніякіх помнікаў ды мемарыялаў не прадугледжана. Аўтары праекта Трасцянецкага мемарыяла, піша партал Tut.by, «выказалі боязь, што жаданне... разабрацца са сталінскімі расстрэламі ў Трасцянцы можа перавесці пытанне мемарыялізацыі «Трасцянца» ў разрад «палітычных» і затармазіць праект...»

Ёсць нейкая ганебная супярэчлівасць паміж тым, што насамрэч адбывалася на нашай зямлі, і тым, як яно ўвасабляецца ў велічныя мемарыялы. Але прычына, здаецца, не толькі ў «палітызацыі» — значна глыбей. Бальшавізм знішчыў саму сутнасць чалавечай маралі, якая спрадвек трымалася на непарыўнасці памяці. Памяці, якую пакідаюць нашчадкам сыходзячыя пакаленні.

Вось чаму мяне так уразіла пытанне ўнучкі, калі некалькі гадоў таму я ўпершыню прывёз яе ў Хатынь: «Хіба ж бываюць былыя могілкі?»

Не магу сказаць, што прапанову паехаць у Хатынь яна ўспрыняла з вялікім інтарэсам. «Нам у школе расказвалі... Але калі хочаш, давай з'ездзім».

У Хатыні яна прыціхла, адасобілася, абмінаючы групкі экскурсантаў і затрымліваючыся каля комінаў і калодзежаў, у якіх скурчыліся на зацягнутай лядком вадзе беларускія дваццаткі ды старублёўкі, а важкія

## Рабі, што хочаш: раўнуй, руйнуй...

замежныя манеты паблісквалі на дне... Потым стала фатаграфаваць аблокі. Дакладней неба, па якім павольна напаўзалі адно на адно цёмныя хмары, неахвотна прапускаючы ў блакітныя нябесныя праталіны прахалодны сакавіцкі прамень... А потым спытала: «Дзеда, а чаму ў Хатыні няма крыжа?»

Былі ў Хатыні крыжы — на старадаўніх могілках. Калі будавалі «Хатынь» з сімвалічнымі «могілкамі спаленых вёсак», спрадвечныя хатынскія могілкі месцамі зруйнавалі разам з крыжамі, а месцамі пакінулі на ўладаранне часу... Усё роўна, маўляў, няма каго тут хаваць.

Сюды, на гэтыя былыя могілкі, мяне прывёў аднойчы Уладзімір Яскевіч, адзін з шасці ацалелых хатынскіх хлапчукоў. Зняўшы шапку, сказаў: «Тут мноства маіх продкаў пахавана...» І толькі потым паказаў, дзе стаяў кулямёт, з якога карнікі расстрэльвалі выбягаючых з гумна ахопленых полымем людзей...

...Мы з унучкай узышлі на ўзвышша. Старанна, каб не наступаць на нізенькія пагуркі, што засталіся ад колішніх магіл. Вось тут я і пачуў трохі дзіўнаватае пытанне: «Хіба ж бываюць былыя могілкі?»

Не памятаю, што я тады адказаў. Мабыць, пра яўрэйскія могілкі, якія знішчылі ў Мінску, калі яшчэ да вайны будавалі стадыён «Дынама»; ці пра каталіцкія, калі хавалі за пасляваеннымі фасадамі касцёл Святога Роха; ці пра воінскія часоў Першай сусветнай, на якіх доўгі час рохкаў так званы Скотны рынак, а потым узняліся элітныя збудаванні...

А днямі мяне вярнуў да ўнуччынага пытання адзін з водгукаў на нататкі «Грош цана», дзе я ўзгадваў пра старажытную гару пад Смалявічамі, з жоўтага пясочку якой насыпаўся «Курган Славы». Чытач пад нікам Rасуја паведаміў, што на той гары былі старадаўнія могілкі. Бацька расказваў яму, што ў вайну «на тых могілках немцы стралялі людзей... Я памятаю, — піша чытач, — як на той скалечанай гары яшчэ магілы асобныя былі... Потым катлаван быў. Цяпер зраўнаванае месца...»

Я прапанаваў сустрэцца і з'ездзіць на тое месца. Адказ атрымаў з... Мексікі. Не ведаю, што прымусіла Дзмітрыя вандраваць па свеце. Але вось што ён піша далей: «Вельмі сумую па Бацькаўшчыне... Сэрца маё б'ецца ў Беларусі, і душа ніколі не пакідала радзіму....»

Дык ці бываюць былымі могілкі?

Ва ўяўленні людзей, якія рвуць на кавалкі агульную памяць, усе «не тыя» могілкі былыя — ці ад непатрэбы кагосьці хаваць, як у Хатыні; ці ад патрэбы будаваць стадыёны; ці ад імкнення перавесці іх у «палітычны разрад»... Рабі, што хочаш: раўнуй, руйнуй, хавай ад нашчадкаў пад сметнікам вышыней ці не з той курган — Курган Няславы...

Але для людзей, чыя душа нідзе і ніколі не пакідае радзіму, былых могілак не бывае.

І яшчэ для дзяцей.

*kamerton_41@mail.ru*

**Фотафакт**




**Марына Лінчук у кітайскім квартале**

Вядомая беларуская мадэлька знялася для красавіцкага нумара часопіса Pop Magazine. Для гэтага яна правяла экскурсію па Чайна-Таўне ў Лос-Анджэлесе.

# Дзень дурня на АНТ

Жарт пра фальсіфікацыі на з'ездзе АГП падалі **як сапраўдную інфармацыю**.

У эфіры перадачы «Контуры» на АНТ выйшаў сюжэт на тэму еўрапейскіх санкцый, а таксама ўплыў на іх прыняцце апазіцыі.

Сярод іншага быў працытаваны ўрывак з артыкула на сайце газеты «Товарищ» (camarade.biz). У матэрыяле сцвярджалася са спасылкай на Сяргея Калякіна, Аляксея Януковіча, Дзяніса Садоўскага, што Анатоль Лябедзька не перамог на выбарах старшыні АГП. Агульны мэсідж журналіста Жана Содэля быў наступным: маўляў, абвінавачваецe ўлады ў фальсіфікацыях, а самі «нячыстыя».

На сайце camarade.biz гэты артыкул з'явіўся 1 красавіка (Дзень дурня), пад матэрыялам ёсць спасылка, дзе гаворыцца, што інфармацыя жартоўная. Тым не менш, карэспандэнты АНТ вырашылі скарыстаць яе ў сваіх мэтах, без усялякіх спасылак на жарт.

**ЗП**

# Глеб у начным клубе Dozari

Апошнім часам ён усё **менш гуляе**.

У гэтыя выходныя футбаліст Аляксандр Глеб быў заўважаны ў мінскім клубе Dozari. Паўабаронца самарскіх «Крылаў Саветаў» быў там у ноч 8 красавіка. Пра гэта сведчаць фатаграфіі на сайце ўстановы.

У чэмпіянат Расіі Глеб перайшоў у лютым. Прыняў удзел толькі ў двух гульнях каманды з шасці. Астатнія прапусціў па прычыне траўмаў і хваробаў.

Некалі Глеб быў зоркай сусветнага футбола, выступаючы за «Арсенал» і «Барселону». Праўда, апошнім часам ён не можа замацавацца ў складах менш рэйтынгавых каманд.

Паход Глеба ў начны клуб выклікаў неадназначную рэакцыю ў балельшчыкаў.

**ЛМ**



# Праваслаўная царква перапрашае за фатаграфію гадзінніка Breguet

На мінулым тыдні патрыярх Кірыл назваў «калажам» зробленыя ў часе пастырскага візіту ва Украіну фатаграфіі, дзе ў патрыярха на левую руку надзеты Breguet, які называюць яшчэ «гадзіннікам мільярдэраў». Патрыярх казаў, што ў ягоным адзенні «немагчыма насіць гадзіннік».

Пры гэтым патрыярх заяўляў, што Breguet за 30 тысяч еўра ў яго сапраўды ёсць, але ён ляжыць «сярод каробак з падарункамі», а ён яго ніколі не надзяваў.

Аднак блогеры знайшлі на партале РПЦ фота, дзе на руцэ патрыярха няма гадзінніка, але ён адлюстроўваецца на лакаванай стальніцы. Гэта значыць, проста неахайна зацёрты ў фаташопе. У той жа час праз няўзгодненасць на сайце Аддзела замежных сувязяў Патрыярхату на тым самым фота гадзіннік відзён на месцы.

У інтэрнэце пачалі смяяцца: ці фаташоп гадзінніка парушае прыказанні царквы?

Гадзіннік Breguet за 30 тысяч на руцэ патрыярха Кірыла адбіваецца ў паверхні стала, за якім ён сядзіць, у выніку «недарэчнай памылкі» фотарэдактуры, паведаміла нарэшце прэс-служба патрыярха.

«Адным з асноўных прынцыпаў нашай працы з'яўляецца прынцыповая адмова ад выкарыстання праграм рэдагавання фатаграфій для змены выгляду малюнкаў», — паведамілі ў прэс-службе, паабяцаўшы, што «вінаватыя будуць строга пакараныя».

У цяперашні час фатаграфія ў зыходнай якасці вернута на сваё месца.

У Расіі пачалі гучаць галасы з абвінавачваннем патрыярха ў «сцяжальніцтве» і «лжэсведчанні». Нядаўна выявілася, што ў патрыярха Кірыла маецца кватэра коштам 1,5 мільёна даляраў, у якой прапісаная жанчына, якую ён назваў сваёй траюраднай сястрой.

**Мікола Бугай**



**На гэтым фота гадзіннік за 30 тысяч еўра быў старанна замазаны.**



**У інтэрнэце з'явіліся шматлікія калажы і карыкатуры.**

### Ад рэдактара

Перш чым рыхтаваць гэты артыкул, я размаўляў з адной выдатнай праваслаўнай актывісткай. Праваслаўныя інтэлектуалы адчуваюць горыч і нясмак ад гісторыі з гадзіннікам і нерухомасцю патрыярха. Але суразмоўца прасіла не пісаць пра гэта на Пакутным Тыдні. Маўляў, гэта «ціхія дні» і не варта «цяпер» пра гэта гаварыць.

...Памятаю, яшчэ студэнтам давялося мне трапіць у рэзідэнцыю мітрапаліта ў часе посту. Гэта былі гады эканамічнага крызісу, калі большасць людзей жыла зіму за бульбай і капустай, а рыба — імпартны прадукт — была настолькі дарагой, што яе дазвалялі рэдка. Я трапіў у епархію пасля вячэры, ну і мне гаспадары прынеслі тое, што заставалася на стале: рыба, памідоры, аліўкі... А тады сярэдні заробак у краіне быў 30 даляраў.

Тады я ўспомніў маю бабу Полю: яна трымала пост, напэўна, гадоў да 85 ці 90, пакуль мела здароўе, і ў тыя тыдні ела посную картоплю, аўсяны кісель, суп з грыбом...

Не гаварыць аб духоўных праблемах царквы, бо пост — на маю думку, гэта фарысейства. Можа быць, хтосьці са мной паспрачаецца. Буду рады надрукаваць Вашы допісы.

**Андрэй Дынько**



# Патрыярх, якога лёгка называць «Сьвяцейшым»

**Патрыярх Сербскі Павал** прынцыпова ездзіў на грамадскім транспарце.

Так ці інакш, усіх праваслаўных патрыярхаў называюць Свяцейшымі. Але найчасцей яны ўяўляюцца гэткімі сабе міністрамі на лімузінах і з аховай. Зусім інакшым быў сербскі патрыярх Павал (па-сербску — Паўле).

Яшчэ ў 1940-х гадах сухотніку Гойка Стойчавічу лекары абяцалі толькі тры месяцы жыцця. Стойчавіч акаляўся, але сапраўды памёр. Толькі сімвалічна, прыняўшы манаскі пострыг і пачаўшы новае жыццё — манаха, аскета, святара. І праз 50 гадоў узначаліў Сербскую Царкву.

Ён дажыў да 96 гадоў і спачыў у 2009. На яго пахаванне прыйшлі сотні тысяч людзей. Чым ён заслужыў такую любоў?

Ён не рабіў нічога звышнатуральнага, але ўжо пры жыцці многія лічылі патрыярха Паўла сьвятым.

Вось папулярны фотаздымак патрыярха Паўле — старэнькі манах у старэнькім падрасніку з патрыяршым посахам, які нагадвае звычайны дзядульчын кіёк, крочыць вуліцамі Бялграда.

Іншы фотаздымак патрыярха, калі той едзе ў трамваі — у цёмнай манаскай вопратцы, але са светлым тварам, які, здаецца, асвячаў навакольле.

Як расказваў святар Ігар Пчалінцаў, патрыярх Павал у 2003 на спецыяльным цягніку прыехаў у ліку іншых гасцей у Сароў — для ўдзелу ва ўрачыстасцях памяці Серафіма Сароўскага. Усіх гасцей развезлі па гасцініцах, і раптам высветлілася, што... згубіўся сербскі патрыярх. Патрыярха ў ім не прызналі — не той выгляд быў. Калі вярнуліся на вакзал, то патрыярх сядзеў на сваім чамадане і спакойна чакаў. З транспарту засталася адна «газель», на ёй патрыярха і павезлі. Праўда, цяжка ўявіць, каб такая гісторыя адбылася з нейкім нашым патрыярхам ці мітрапалітам? Папы і многія патрыярхі лётаюць уласнымі самалётамі, у час іх прыезду перакрываюць трасы, а тут — маршруткай.

Адна сербская жанчына, прыйшоўшы на прыём да патрыярха, заўважыла, што ў патрыярха зусім старэнькія чаравікі, і ёй стала сорамна, што патрыярх вялікай багатай Царквы абуты ў пацёрты абутак. А патрыярх злавіў яе погляд і ўсміхнуўся: «Бачыце, якія выдатныя скураныя чаравікі я знайшоў на сметніцы? Я толькі іх зашыў і яны сталі як новыя».

Гэта не было пазёрства. Гэта было перакананне. Духоўны правадыр не павінен жыць багацей за свой народ.

А вось гісторыя пра «падарунак». Адна багатая сербка, прыйшоўшы на прыём да патрыярха, хацела ўручыць яму дар, спаслаўшыся на тое, што ў сне да яе прыходзіла Найсвятая Багародзіца і загадала прынесці дар патрыярху. «А якой гадзіне прыходзіла да вас Найсвятая Багародзіца?» — ажывіўся ўладыка. Тады і тады, адказала госця. «Я лёг спаць пазней, — кажа ёй Павал, — і Найсвятая Багародзіца таксама прыйшла да мяне, і папрасіла падзякаваць вам, і загадала, каб я падарунка не прымаў».

Можа, гэта і не святасць. І праўда — сам за сабой талерку прыбраў; хлеб нарэзаў; у агульнай чарзе ў сталоўцы пастаяў; на трамваі праехаў — мільёны людзей робяць гэта штодня. Ніхто з іх не ўпадае ў экзальтацыю ад сваёй святасці. Але заставацца проста чалавекам, прыніжаць сябе, калі іншыя ўзвышаюць, гэта ўжо шлях да святасці, яўленне сапраўднай Чалавечнасці, праз якую толькі і можа быць яўленая сапраўдная Боскасць.

**Наталля Васілевіч**

**Артыкул напісаны ў 2009, пасля спачыну Патрыярха Паўла**



**Патрыярх Павал і палітыка**

Ён стараўся трымацца па-за палітыкай, але быць па-за палітыкай ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму — гэта фактычна падтрымліваць рэжым.

У 1993 патрыярх напісаў ліст прэзідэнту Сербіі Слабадану Мілошавічу з просьбай вызваліць са зняволення палітвязня, лідара апазіцыі Вука Драшкавіча.

Калі сербская паліцыя гатовая была жорстка разагнаць студэнцкія выступленні 1996 у Бялградзе, патрыярх выйшаў на вуліцу разам са студэнтамі, і паліцэйскія кардоны вымушаныя былі прапусціць калону.

Рэжым Мілошавіча, які кіраваў краінай да 2000, патрыярх не пабаяўся назваць «адказным за катастрофу сербскага народа».

# «Знаходзілі злачынствы там, дзе іх няма»

Летась **незаконна да крымінальнай адказнасці** было прыцягнута 426 чалавек.

Лічбы па колькасці незаконна прыцягнутых да адказнасці прывёў першы намеснік старшыні Следчага камітэта Андрэй Швед на міжнароднай канферэнцыі па праблемах барацьбы са злачыннасцю і падрыхтоўкі кадраў для праваахоўных органаў.

Летась у 8 (!) разоў павялічылася колькасць людзей, якіх незаконна прыцягвалі да крымінальнай адказнасці па справах, папярэднім расследаваннем якіх займаліся следчыя Дэпартамента фінансавых расследаванняў КДК, следчыя МУС — у 2,3 разу.

«У некаторых выпадках да крымінальнай адказнасці прыцягваліся невінаватыя асобы, як з прычыны абвінаваўчага ўхілу з боку следчых, так і ў выніку памылак, а часам і прамых фальсіфікацый доказаў», — прыводзяцца словы Шведа.

У дадатак, па звестках Генпракуратуры, летась вырасла і колькасць асобаў, якіх апраўдалі суды. Гэтая лічба роўная 382 выпадкам. Да прыкладу, у 2010 — 217, 2009 — 187. Суддзі выносяць апраўдальныя прысуды, калі доказы, сабраныя следчымі і прынятыя пракурорам, не пераконваюць іх у вінаватасці абвінавачаных.

**Кастусь Матушыч**




# Кіроўца пакінуў паміраць сяброўку пасля аварыі

Цяпер яго **шукае міліцыя**.

Трагедыя адбылася ў Мінску ўначы 5 красавіка. Каля 2.15 вадзіцель Kia Sephia не даў рады з кіраванню на праспекце Незалежнасці ў Мінску, выехаў за межы праезнай часткі і ўрэзаўся ў асвятляльную мачту.

У выніку ДТЗ ад атрыманых траўмаў на месцы здарэння памерла пасажырка. Кіроўцу, які, паводле следства, пакінуў дзяўчыну і збег, вылічылі. Падазраюць, што ім быў 21-гадовы студэнт-завочнік БДУ Арцём П. Да сёння міліцыя не можа знайсці яго. Не выключана, што малады чалавек атрымаў сур'ёзныя траўмы.

Пасажырка Яўгенія таксама вучылася ў БДУ: на дзённым аддзяленні эканамічнага факультэта. Ёй было толькі 19 гадоў. Па словах аднакурсніка дзяўчыны, увечары перад трагедыяй Яўгенія і Арцём знаходзіліся ў адной кампаніі на кватэры ва Уруччы. А пасля вырашылі разам паехаць ці то ў клуб, ці то на іншую кватэру. Ніхто больш не рашыўся сесці ў аўто да хлопца. Па словах аднакурсніка, Арцём быў п'яны. Тое ж кажуць і ў праваахоўных органах.




Яўгенія (злева) хацела стаць менеджарам.

Крымінальная справа заведзена па частцы 2 артыкула 317 КК (парушэнне правілаў дарожнага руху, якое выклікала па неасцярожнасці смерць чалавека). Пакаранне прадугледжана ў выглядзе папраўчых работ да двух гадоў альбо абмежавання ці пазбаўлення свабоды да пяці гадоў.

Гэта не адзінкавы выпадак сёлета, калі ў ДТЗ гінуць студэнты. 5 студзеня ў Мінску аўтамабіль «БМВ-318», якім кіраваў 20-гадовы Аляксей В., выехаў на сустрэчную паласу і ўрэзаўся ў аўтобус. У выніку пасажырка аўто, 18-гадовая студэнтка БДУ Валерыя, ад атрыманых траўм памерла на месцы. Кіроўца ў стане комы і з чэрапнамазгавой траўмай цяжкай ступені быў шпіталізаваны. У канцы сакавіка Аляксея выпісалі з бальніцы. Да яго часткова вярнулася памяць.

**КМ**

9 сакавіка ў 01.50 у Мінску аўтамабіль «Мазда-626», у якім ехалі дзве жанчыны, урэзаўся ў ліхтар. Хуткасць была такая, што ў аўтамабіля адарвала багажнік да сярэдзіны салона. Жанчына-кіроўца збегла з месца здарэння. Яе сяброўку ў цяжкім стане даставілі ў бальніцу хуткай дапамогі пасля таго, як машыну заўважылі людзі. Кіроўца з'явілася ў міліцыю з павіннай толькі праз пяць дзён пасля аварыі.

# Асудзілі, апраўдалі і зноў судзяць

Пачаўся чарговы працэс па справе школьніка, які **расстраляў групу моладзі**.

Справа пачалася чатыры гады таму. 17-гадовы мінчук з пнеўматычнага пісталета расстраляў групу школьнікаў.

Па словах чатырох пацярпелых, 5 красавіка 2008 каля аўтобуснага прыпынку на іх напалі два чалавекі. Пачалася бойка. Адзін з нападнікаў выхапіў пнеўматычны пісталет і пачаў страляць па кампаніі. Маладых людзей адвезлі ў бальніцу. Двух давялося аперыраваць, каб дастаць кулі, якія трапілі ў твар, грудзі, рукі.

Падазраваных міліцыянты не маглі знайсці працяглы час. У выніку толькі аднаго з іх і адшукалі. Яго пацярпелыя ведалі ў твар, як жыхара аднаго з імі двара. Гэта быў Спартак Т. Увесь час, пакуль вяліся пошукі, ён знаходзіўся ў Расіі. Як расказаў хлопец у размове з карэспандэнтам «НН», ён вярнуўся ў Беларусь адразу, калі даведаўся, што яго шукаюць. Тады высветлілася, што Спартак ужо быў асуджаны на ўмоўны тэрмін за аналагічнае злачынства: на 4 гады з адтэрміноўкай на 2 гады. Спартак на судзе прызнаў сваю віну. Прычыну здзейсненага патлумачыў тым, што нібыта хлопцы яго абразілі. На што той адказаў гвалтам.

Асудзілі 17-гадовага Т. па ч. 3 арт. 339 КК РБ (хуліганства) на 5 гадоў калоніі. Падчас зняволення адбылося новае судовае пасяджэнне, у выніку якога тэрмін зняволення зменшылі да 4 гадоў і 3 месяцаў.

Вярхоўны Суд летась адмяніў усе ранейшыя судовыя пастановы ў адносінах да яго. Т. адмовіўся ад сваіх папярэдніх паказанняў. У выніку Мінскі гарадскі суд апраўдаў яго. Але сёлета ў студзені судовая калегія па крымінальных справах Вярхоўнага Суда адмяніла апраўдальны прыгавор у адносінах да Т. Справу накіравалі на новы разгляд.

**КМ**

## Сцісла

### Спынілі вялікую кантрабанду ўгнаенняў

КДБ выявіў разгалінаваную сістэму крадзяжу мінеральных угнаенняў з наступным вывазам за мяжу, у тым ліку ў ЕС. 6 красавіка пры спробе выезду ў Літву па падробленых дакументах затрыманая калона вялікагрузнага аўтатранспарту, у якім знаходзілася больш за 200 тон калійных угнаенняў. Яшчэ на 3 тысячы тон накладзены арышт. Для вывазу за межы Беларусі ўгнаенні афармляліся па падробленых дакументах як груз, які належыць «Уралкалію». За мяжой яны рэалізоўваліся па кошце ад $ 400 да $ 500 за тону. Падазраваныя грамадзяне Беларусі і Літвы змешчаны ў СІЗА КДБ. Крадзеж узнаенняў адбываўся пры ўдзеле асобных службовых асоб.

### Атруціліся аміякам

На мінскім мясакамбінаце 5 красавіка выцекла 50 кілаграмаў аміяку. Шасцёра работнікаў дастаўлены ў гарадскую клінічную бальніцу хуткай дапамогі з атручэннем. Ратавальнікі ўстанавілі, што ў будынку цэха паўфабрыкатаў адбыўся выхад аміяку з радыятара ахаладжэння ў халадзільнай камеры, што на чацвёртым паверсе будынка. А за дзень да гэтага на мясакамбінаце атручанне парамі аміяку атрымаў работнік кампрэсарнага цэха прадпрыемства.

### Рыбак атрымаў электратраўму

Сур'ёзную электратраўму на рыбе атрымаў 57-гадовы жыхар Івацэвічаў. Няшчасны выпадак адбыўся вечарам 6 красавіка на чыгуначным мосце цераз раку Грыўда, што каля Івацэвіч. Мужчына ішоў па мосце з раскладзенай тэлескапічнай вудай на плячы. Нягледзячы на тое, што снасць не закранала лінію электраперадачы, адлегласць да правадоў была мінімальнай. Вось высакавольтны разрад і ўдарыў рыбака. Пацярпелага даставілі ў бальніцу.

**КМ**

# Новая карціна Глобуса: «Таемная вячэра асуджаных на смерць»



Першы яе эскіз мастак напісаў 11 красавіка 2011.

Пісьменнік, мастак і выдавец Адам Глобус выставіў у сваім блогу выяву карціны «Таемная вячэра асуджаных на смерць». Аўтар адзначае, што гэтае невялікае палатно — 40×60 см — толькі эскіз: «Але я планую напісаць вялікую карціну». Як паведаміў Адам Глобус, першы накід да «Вячэры» ён пачаў маляваць 11 красавіка 2011, у дзень тэракта ў метро: «Таемная вячэра — гэта, увогуле, адна з маіх любімых тэмаў. А з гэтай карцінай была нейкая містыка. Я на год схаваў эскіз, як толькі даведаўся пра выбух».

Сяргей Мікулевіч



## Так будзе выглядаць помнік Альгерду

Па выніках конкурсу на найлепшае ўвасабленне помніка князю Альгерду ў Віцебску перамог праект, які зрабіў віцебскі скульптар Валерый Магучы. Помнік мае паўстаць на Уваскрасенскай плошчы, насупраць аднайменнага храма. Манумент будзе конным. Такіх у краіне пакуль толькі два: князю Усяславу ў Полацку і выява Святога Юр'я ў Бабруйску.

Паводле летапісных звестак, Альгерд, сын Гедыміна, княжыў у Віцебску, перш чым зрабіцца вялікім князем літоўскім. Ён быў жанаты з дачкой віцебскага князя Марыяй. Пры Альгердзе у Віцебску былі збудаваныя мураваныя замак.

СМ

# Леанід Галубовіч парушыў дванаццацігадовае маўчанне

Паэт выдаў зборнік «З гэтага свету».

Пасля таго як у 2000 выйшлі «Апошнія вершы Леаніда Галубовіча», ён з паэзіяй «завязаў». Не ўсе, праўда, паверылі. Але міналі год за годам, а новых радкоў Галубовіча так і не было. І нават скептыкі здаліся.

Галубовіч скіраваў сваю энергію ў іншы бок — у крытыку. Тыднёвік «Літаратура і мастацтва» друкаваў «Кулуары», у якіх ён ЛеГалізаваў кнігі беларускіх аўтараў. Пакуль тую рубрыку не закрылі. Затым і кніга вый-шла яго крытычных эсэ — «Сыс і Кулуары».

Паэт неадназразова падкрэсліваў, што піць кінуў і вершы пісаць кінуў. Але калі першага зароку трымаецца шмат гадоў, то ад паэзіі адрачыся ўсё-такі не здолеў.

«З гэтага свету» — 23 кніга ў серыі «Кнігарня пісьменніка».

КМ

**Леанід Галубовіч**

нарадзіўся ў вёсцы Вароніна ў Клецкім раёне. Скончыў ПТВ у Слуцку. Працяглы час працаваў электрыкам. У 1984 Галубовіч выдаў зборнік вершаў «Таемнасць агню», за які яго прынялі ў Саюз пісьменнікаў. Скончыў Вышэйшыя літаратурныя курсы ў Маскве. Працаваў на Беларускім тэлебачанні, у часопісе «Крыніца». З скандалам сышоў, калі часопіс загналі ў дзяржаўны холдынг "Літаратура і мастацтва". Праз тры месяцы вярнуўся ў "ЛіМ", абумовіўшы гэта неабходнасцю "працаваць на карысць Бацькаўшчыны". Цяпер на пенсіі.



**З гэтага свету. Вершы пасля вершаў / Леанід Галубовіч. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 108 с.**

**Верш з кнігі**

***

Усе мае лепшыя вершы
са мною павінны памерці,
калі ж я сканаю першы,
то вы ім паверце
і без маёй прысутнасці,
проста на слова,
бо, калі браць па сутнасці,
я — іх палова.
Не тая, што водзіць пяром
і строфы складае,
а тая, што ў неба пралом
пагляды кідае
і ловіць маланкі клінок
натомленым духам,
зямны завяршыўшы віток
немачнай скрухай.
Калі ж пакарае Гасподзь —
і жыць буду доўга,
чытач, не саромся,
прыходзь
за паэтычным доўгам.
Ці хоць бы зірнуць на таго,
хто зоркі вымольваў з неба
не толькі для аднаго
духоўнага хлеба,
хто ў цень ступаў Сатаны,
душы сваёй не прадаўшы,
таго, што Бог затаіў,
так і не разгадаўшы…

## Сціcла

**«Тытанік» у 3D**

На экраны кінатэатраў Мінска выходзіць трохмерная версія эпічнай кінастужкі Джэймса Кэмерана, дзе паказанае незабыўнае каханне на фоне гібелі гіганцкага круізнага лайнера. Выхад «Тытаніка» ў 3D-версіі прымеркаваны да стагоддзя гібелі круізнага лайнера (15 красавіка).

**Барысу Кіту — 102**

Стваральнік беларускамоўных школ і семінарый, а пасля навуковец у сферы касмічных тэхналогій прыйшоў на свет у 1910 годзе. Ён выкладаў у Віленскай беларускай гімназіі, быў дырэктарам Навагрудскай беларускай гімназіі, падчас нямецкай акупацыі арганізаваў беларускія школы, выратаваў ад прымусовага вывазу ў Нямеччыну дзясяткі юнакоў. У Каліфорніі займаўся даследаваннямі ў касмічнай галіне. У 1972 пераехаў з ЗША ў Нямеччыну, у Франкфурт-на-Майне, дзе жыве зараз у доме для людзей сталага веку.

СГ

**In memoriam**

## Міхась Тычына

Не стала краязнаўца, журналіста, слуцкага аўтара «НН» Міхася Тычыны.

Міхась Адамавіч нарадзіўся ў 1927 у Борках Слуцкага раёна. Усе свае творчыя сілы ён аддаў роднай Случчыне:



больш за трыццаць гадоў адпрацаваў рэгіянальным карэспандэнтам «Мінскай праўды». Друкаваўся таксама, часта пад псеўданімам Міхась Кутнявецкі, у «НН», «Нашай волі», «Родным слове», «ЛіМе», «Сельскай газеце»... Яго ваенныя ўспаміны да апошніх дзён друкаваў слуцкі «Інфа-Кур'ер».

Ён не стаяў убаку ад грамадскага жыцця — быў сталым удзельнікам святкавання гадавінаў Слуцкага збройнага чыну, яго каментары на актуальныя тэмы гучалі ў прэсе, на хвалях радыё «Свабода».

Гісторык Анатоль Сідарэвіч, які ў 1968 публічна выступіў супраць увядзення савецкіх войскаў у Чэхаславакію і быў змешчаны ў псіхіятрычны шпіталь, успамінае, як Міхась Тычына дапамог яму знайсці працу ў капыльскай раёнцы пасля вызвалення.

Пахавалі спадара Міхася 10 красавіка ў Селішчы каля Слуцка.

Міхась Адамавіч быў верным шматгадовым падпісчыкам «НН», які не кідаў газету ў самыя цяжкія часы. Рэдакцыя смуткуе разам з яго роднымі.

СМ

## Анатоль Сабалеўскі

6 красавіка пасля працяглай хваробы памёр выдатны беларускі тэатразнавец, прафесар, доктар мастацтвазнаўства



Анатоль Сабалеўскі. Ён 50 дзён не дажыў да 80-годдзя (нар. 27.05.1932).

У 1974—1979 гг. Сабалеўскі быў рэктарам Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (зараз Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў). Анатоль Вікенцьевіч каля пяцідзесяці гадоў выкладаў у Акадэміі, узгадаваў шмат пакаленняў студэнтаў і аспірантаў, быў выдатным знаўцам гісторыі беларускага тэатра.

SR

# Палітвязні ля варотаў Касцёла. Касцёл ля варотаў сумлення

Піша **Пётра Рудкоўскі**.

«Мы служым усім і молімся за ўсіх людзей. Справы палітычныя — гэта справы палітычныя. Мы займаемся духоўным акармленнем людзей. З пункта гледжання сацыяльнага навучання Касцёла, кожны чалавек павінен клапаціцца аб сваім здароўі. І Касцёл не падтрымлівае такой акцыі, як галадоўка. Чалавек выбірае — што мы можам сказаць?» — сказаў уладыка Тадэвуш Кандрусевіч у адказ на пытанне пра палітвязняў і галадоўку Сяргея Каваленкі.

Рэакцыя прадстаўнікоў «грамадзянскай супольнасці» была гранатамётнай: «Здраднік», «Баязлівец»... Пад гэтыя дыягнастычныя эпітэты нялёгка захаваць раўнавагу і проціпаставіцца спакусе схавацца ў адну з крэпасцяў — альбо ў крэпасць клерыкалісцкай лаяльнасці, альбо ў крэпасць антыклерыкальнай заўзятасці. Але мужных людзей заклікаю застацца «пад градам» (хоць гэта і некамфортна) і глянуць на справу без маладушнай лаяльнасці і без фанабэрыстай заўзятасці.

Выступ арцыбіскупа Кандрусевіча агаліў, прынамсі, дзве праблемы, якія абцяжарваюць стасункі «Касцёл — грамадзянская супольнасць». Першая — вельмі шырокая — гэта пазіцыя беларускіх іерархаў адносна розных маральных праблемаў у грамадска-палітычнай сферы. Другая праблема — вельмі канкрэтная — рэакцыя мітрапаліта на галадоўку сп. Каваленкі.



1. У беларускай грамадска-палітычнай сферы ёсць розныя маральныя праблемы — з правамі чалавека, свабодай слова, вострая праблема нечалавечых умоў утрымання ў вязніцах, праблема фізічных і псіхалагічных катаванняў. Пра гэта нонстоп гавораць недзяржаўныя СМІ, праваабарончыя арганізацыі ўздымаюць гэтыя тэмы, за ахвяраў бяспраўя заступаюцца першыя асобы еўрапейскіх краін. І гэта вельмі добра. І кожны чалавек добрай волі пакліканы ўключыцца ў кампанію за пераадоленне розных формаў несправядлівасці ў названых сферах.

Але... у грамадска-палітычнай сферы ёсць праблемы намнога больш жудасныя і патрабуючыя намнога больш рашучага процідзеяння. Гэта праблемы забівання дзяцей ва ўлонні маці, а таксама пазаўлонневаe забіванне. І ці гэта камусь падабаецца, ці не, але задача абароны нявінных безабаронных чалавечых істотаў з'яўляецца прыярытэтнай у грамадска-этычнай місіі Касцёла. Грамадства, якое дазваляе пераслед людзей за іх палітычныя перакананні, з'яўляецца маральна няспелым. Але грамадства, насякнутае крывёю тысяч нявінных чалавечых істотаў, якое пры гэтым пасміхаецца з гэтай праблемы (маўляў — от, дробязь) — гэта грамадства, якое знаходзіцца на найніжэйшай стадыі маральнай дэградацыі.

Беларускія іерархі ў гэтай фундаментальнай справе, якая ігнаруецца большасцю праваабарончых арганізацый, не зважаюць ні на якую паліткарэктнасць і не пытаюць пра тое, ці спадабаецца гэта ўладам, а выразна крытыкуюць заканадаўства і ніякіх кампрамісаў тут заключаць не хочуць. Што ж, было б добра, калі б таксама ў справе іншых маральных праблем у грамадскай сферы — палітвязняў, свабоды слова — Касцёл адважна выказваўся. А можа — так, дзеля эксперымента — пажаданне трэба сфармуляваць трохі інакш: было б добра, калі б праваабарончыя арганізацыі падтрымалі Касцёл і Царкву ў кампаніі па абароне права нявіннага і безабароннага чалавека на жыццё. Вось тады крытыка іерархаў за маўчанне ў справе палітвязняў была б намнога больш пераканаўчай.

2. Што тычыцца пазіцыі (ці адсутнасці пазіцыі) мітрапаліта Кандрусевіча ў справе мучаніцкай галадоўкі Сяргея Каваленкі — на жаль, гэта той выпадак, калі згаданая недасканаласць касцёльнай місіі асабліва балючая. Уладыка дыстанцыяваўся ад маральнага выбару Каваленкі і спрабаваў гэта «абгрунтоўваць» маралізатарскімі (зусім не да месца) заўвагамі, тыпу: Чалавек павінен пра здароўе клапаціцца; Касцёл не падтрымлівае галадоўкі.



**Пётра Рудкоўскі**

Нарадзіўся ў 1978 у Канвелішках (Воранаўскі раён). Ксёндз. Скончыў Ягелонскі ўніверсітэт. Сталы аўтар «НН» і часопіса Arche. Лаўрэат прэміі Arche «За сумленнае слова» (2005). Выдаў кнігу «Паўстанне Беларусі».

**Сам арцыбіскуп Кандрусевіч становўча згадаў пра галадоўку вернікаў у 1990-ыя »**

Зрэшты, сам арцыбіскуп Кандрусевіч, прамаўляючы паўтара года таму пропаведзь з нагоды 100-годдзя касцёла Святых Сымона і Алены становўча згадаў пра галадоўку вернікаў у 1990-я, мэтай якой было дамагчыся вяртання касцёла.

Гэта балюча, што палітвязні і галадоўнікі змушаны стаяць ля варот Касцёла. Гэтыя вароты павінны быць для іх адчынены. Усё ж асноўная місія Касцёла/Царквы — гэта служэнне справе паяднання чалавека з Богам. Галоўным ворагам гэтага паяднання з'яўляюцца не грамадска-палітычныя сістэмы, а ўнутранае зло — грэх. У часы Ісуса Хрыста або св. Паўла грамадска-палітычны лад Рымскай імперыі або марыянеткавага каралеўства Ірада таксама быў пазначаны безліччу паталогій, аднак прапаведаванне Ісуса і Яго паслядоўнікаў засяроджвалася перадусім на Добрай Навіне аб духоўным вызваленні. А ўжо Ісуса Хрыста нельга западозрыць ва ўгодніцтве або канфармізме.

Так ёсць, што грамадска-палітычныя трансфармацыі — гэта другасная справа для Касцёла/Царквы. І ў гэтай якасці можна прымаць або адкідваць Касцёл, гэта справа сумлення кожнага чалавека. Але змяніць гэтага немагчыма.

# Беларуская глыбіня. Падлік радзімак

Піша **Павел Севярынец**.

*...вярніся ў зямлю тваю,*
*на радзіму тваю,*
*і Я буду дабрачыніць табе!*
*Быццё 32:9*

У маленстве нам казалі: колькі радзімак — столькі і дзяцей будзе. Чэсна-чэсна. Мы рупліва і падазрона вышуквалі ды лічылі тыя радзімкі — у каго больш? — шэптам прызнаваліся: «А ў мяне яшчэ адна ёсць, толькі я табе не пакажу», — і паблажліва азіраліся на бацькоў.

Згадваю, калі разглядаю россып радзімак — сваіх малых радзімаў — на мапе. Пункты ў гісторыі. Плямкі памяці. Мясціны тых, чыім дзіцём я ёсць.

І колькі такіх радзімак, малых і вялікіх, маю на адной толькі Берасцейшчыне!

Адсюль, з палескай глыбіні, мая матуля Таццяна. З Лунінца, дзе настаўнічаў Якуб Колас, адбываў вайсковую службу Аляксандр Блок, у ваколіцах якога растуць два найвышэйшыя ў Беларусі дубы, 41 і 45 метраў адпаведна, названыя імёнамі Міцкевіча і Суворава, з таго самага Лунінца, што насамрэч стаіць на скале: пад ім амаль да зямной паверхні падыходзіць гранітны крышталёвы фундамент... Гэта там, у грандыёзным кар'еры найвялікшага ў Еўропе радовішча будаўнічага каменя, зараз стаяць за свае правы дзясяткі рабочых. Цвёрда, як усякі беларус, якога, капні толькі глыбей, усё-такі дастала!



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

**Матуля збірала мяне з усёй краіны па кавалачках**

Матуля выхавала трох дзяцей (малымі прымушала нас бегаць па раніцах на стадыён і падрыхтавала-такі ўсіх залатымі медалістамі), шасцярых унукаў. Дагэтуль са сваім настаўніцкім стажам у 36 гадоў энергічная, усмешлівая, стылёва апранутая вандроўніца — кіруе найбуйнейшай Віцебскай рэгіянальнай арганізацыяй БХД з 18 раённымі суполкамі і больш як 500 сябрамі. Аказваецца, здольная тутэйшая дрыгва нарадзіць жанчыну, што першай уздыме бел-чырвона-белы сцяг на акцыі, павядзе за сабой грамаду людзей; маючы падтрымку выбарцаў, здымецца з «выбараў» на знак пратэсту супраць датэрміновых фальсіфікацыяў — і зладзіць ля галоўнага віцебскага сабора штопятнічную малітву за Беларусь...

Матуля збірала мяне з усёй краіны па кавалачках. Бабуля, палеская бібліятэкарка, адбыла 7 гадоў у сталінскай ссылцы. Дзед, патомны лунінецкі чыгуначнік, паляваў ды рыбачыў на Прыпяці. А глыбей — тыпова берасцейскі суплёт тутэйшых вяскоўцаў, пінскай шляхты з татарскім прыбабахам, мястэчковых жыдоў, расейскіх службоўцаў — Будзькі, Сагановічы, Дамашэвічы, Лабачэўскія...

Мой прадзед, Міхаіл Будзько, калісьці меліяратар, пасля вайны стаўся ігуменам Яблачынскага манастыра, пастырам для беларусаў Польшчы — і быў пахаваны на могілках царквы на Волі ў Варшаве. Магілу прадзеда адшукалі сённяшнія нашы эмігранты, што з'ехалі на Захад па тую самую Волю.

Воля... Кранаю радзімку, кропку на мапе — быццам націскаю кнопку.

Яшчэ адзін ген, перададзены мне праз матуліну пупавіну, — ген Яўгена Будзько. Брат прадзеда, у 1918 падтрымаў БНР у міжваенны час, пад Польшчай, змагаўся і з санацыяй, і з камуністамі КПЗБ, і ўрэшце, падчас гітлераўскай акупацыі, згінуў у нацысцкім канцлагеры.

Ці не ягоны, Яўгена, попел грукае зараз у сэрца?

Яшчэ адна радзімка — Кажан-Гарадок на Прыпяці, дзе спадкаемца хрышчанага ў праваслаўе жыда Янкеля, далёкая-далёкая сваячка Іцхака Шаміра і Голды Меір, шляхцянка Наста Дамашэвіч захавала для мяне каштоўную кропельку крыві біблейскіх патрыярхаў.

Але аднае Берасцейшчыны не хапіла. Мамінай матулі, бабулі Галі, давялося нараджацца ў Вільні, якраз насупраць Вострай Брамы, а затым усё жыццё назапашваць кнігі ў Лунінецкай раённай бібліятэцы — каб аднойчы ўнук, адпраўлены на «хімію» за бэнээраўскі ген Яўгена, здолеў разабраць у спецкамендатуры ўсе кніжныя завалы 1950—1960-х ды пісаць сваю ўласную кнігу.

І, як матчына Прыпяць уліваецца ў Дняпро, шырокай плынню паплыў мой лёс у бацькава Падняпроўе, вёсачку Унорыца, з хатай на самым крутым правым беразе, са спадчыннымі бондарамі, прадзедам — бальшавіцкім камісарам, дзедам — аднаногім франтавіком, татам — барадатым паэтам — і ў матуліну энергію, кемлівасць ды волю ўплялася творчая жылка.

Вір, пачаты ў глыбіні, круціць усё шырэй. Радзімка, радзімка, яшчэ радзімка...

І, нарэшце, з вёсачкі Пагост пад Оршай, дзе настаўнічалі выпускнікі мінскага філфака, матулю электравозам тэрмінова завезлі ў чыгуначны раддом, каб паставіць у пасведчанні аб нараджэнні сына штамп: родны горад Караткевіча і месца перамогі над Масквой.

Кожны, народжаны ў Беларусі, сатканы з безлічы малых радзімак і выцягнуты з вялікай глыбіні невыпадкова. Тысячы гадоў продкі ўраблялі гэтую зямлю, малілі Бога і працягвалі жыццё дзеля таго, каб зараз, калі Беларусі так не стае волі, веры і любові — ты вызваліўся, паверыў і палюбіў.

У нейкі момант жыцця ты абавязкова спынішся разглядзець гэтыя радзімкі, сузор'і Боскіх знакаў, адзначаныя найдакладнейшым чынам у генах, месцах і ўчынках.

Шчаслівы той, каму багата дадзена і з каго багата будзе спытана, калі ён пралічыць, расшыфруе і разгадае ў радзімках, знаках і мясцінах — дзеля чаго тут і цяпер, у ззяючае сёння выведаў яго на белы свет у такой светлай-светлай краіне Бог.

*Куплін*

# За гады савецкай улады толькі адзін беларус узначальваў спецслужбы БССР

Быў гэта Піліп Мядзведзь у 1924—1925.

На сайце Камітэта дзяржаўнай бяспекі змешчаныя біяграфіі ўсіх кіраўнікоў спецслужбаў БССР і Беларусі ад 1919 да сённяшніх дзён. Прычым насупраць кожнага пазначана ягоная нацыянальнасць.

За ўвесь савецкі перыяд толькі адзін этнічны беларус узначальваў спецслужбы. Быў гэта ўраджэнец вёскі Масееўка Пружанскага павета Піліп Мядзведзь (на фота).

Ён навучаўся ў Варшаўскім тэхнічным вучылішчы Вавельберга і Ротванда, пасля трэцяга курса (1906) быў выключаны за ўдзел у забастоўцы. Працаваў рабочым у Варшаве і Маскве.

У органах дзяржбяспекі быў ад 1918, сябар ВЧК, працаваў непасрэдна пад кіраўніцтвам Фелікса



Дзяржынскага. Мядзведзь нават бародку насіў падобную, як у Дзяржынскага.

У 1924—1925 быў кіраўніком ГПУ БССР. Фактычна, ягонае жыццё з Беларуссю звязанае не было. Што да пасады, то ён быў дасланы з Масквы, а не прызначаны як мясцовы кадр.

Мядзведзь удзельнічаў у арышце Барыса Савінкава, вядомага тэрарыста, аднаго з лідараў баявой арганізацыі эсэраў. Пры ім адбыўся пагром Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы.

Потым працаваў на Далёкім Усходзе і Ленінградскай вобласці. У 1934 быў арыштаваны і асуджаны да трох гадоў лагераў, адбываў пакаранне ў Магаданскай вобласці. У 1937 асуджаны паўторна як сябра так званай «Польскай арганізацыі вайсковай». Расстраляны. Рэабілітаваны ў 1957-м. Тыповы лёс для савецкіх чэкістаў першай хвалі: сістэма, якую яны стварылі, першымі з'ела сваіх дзяцей.

Болей беларусам пасаду «пастуха над беларусамі» не давяралі. Толькі ў 1990-м, калі кіраўніцтва СССР спрабавала выратаваць тонучы карабель заігрываннем з нацыянальнымі элітамі, пасаду старшыні КДБ заняў ураджэнец вёскі Новы Свержань Эдуард Шыркоўскі.

Калі ў перыяд да Другой сусветнай вайны назіраецца нацыянальная разнастайнасць, то пасля 1951-га кіраўнікамі беларускіх спецслужбаў з'яўляліся толькі расейцы.

Ужо ў незалежнай Беларусі КДБ узначальвалі іншыя беларусы — Эдуард Шыркоўскі, Генадзь Лавіцкі (абодва — яшчэ да Лукашэнкі), Уладзімір Ягораў, Уладзімір Мацкевіч, Сцяпан Сухарэнка. А таксама расеец Леанід Ерын.

Нацыянальнасць двух апошніх кіраўнікоў КДБ — Юрыя Жадобіна і Вадзіма Зайцава — не пазначаецца, але абодва яны родам з Украіны, а адукацыю атрымлівалі ў Расіі.

**ЧК, ГПУ, КДБ БССР кіравалі**

расейцы Віктар Яркін (1918—1919), Георгій Малчанаў (1936—1937), Аляксей Наседкін (1938), Міхаіл Баскакаў (1952—1954), Аляксандр Перапяліцын (1954—1959), Васілій Пятроў (1959—1970), Якаў Нікулкін (1970—1980), Веніямін Балуеў (1980—1990), габрэі Аляксандр Ротэнберг (1920—1921), Рыгор Рапапорт (1929—1931), Ізраіль Ляплеўскі (1934—1936), Барыс Берман (1937—1938), палякі Ян Ольскі (1921—1923), Станіслаў Пінталь (1923—1924), Станіслаў Рэдэнс (1931), латышы Герман Матсан (1931—1932), Леанід Закоўскі (1932—1934), грузін Лаўрэнцій Цанава (1943—1951).

Цікава, ці існуе хоць у якой краіне нешта падобнае, калі органы дзяржбяспекі на працягу дзесяцігоддзяў займалі прадстаўнікі не тытульнай нацыі?

**Зміцер Панкавец**

# Кляштар базыльянаў у Барунах хочуць выставіць на продаж

Пакуль аб'ектам зацікавіўся толькі фермер з суседніх Біюцішак.

Барунскі касцёл святых апосталаў Пятра і Паўла і кляштар базыльянаў — помнікі архітэктуры позняга барока. У кляштары цягам XVIII–XIX стст. дзейнічала адна з найлепшых школаў у Літве. Гэтыя аб'екты ўключаныя ў экскурсійныя праграмы, якія праходзяць праз Ашмяны, Гальшаны і Крэва, — маршрут, які называюць «Легенды Вялікага Княства Літоўскага».

І калі будынак касцёла выглядае дагледжаным і прывабным, то на кляштар без суму і не глянеш.

Будынак разбураецца з часам, «дапамагаюць» і мясцовыя жыхары, якія патроху цягаюць усё, што можна выкарыстаць у якасці будматэрыялаў. Паколькі грошай у мясцовага бюджэту на ахову будынка, а таксама яго рамонт няма, яго вырашылі выставіць на продаж.

«Калі нам дазволіць закон, мы прададзім яго за адну базавую велічыню [100 тыс. руб]. Галоўнае, каб знайшоўся чалавек, які спыніць разбурэнне кляштара і возьмецца за яго аднаўленне, пакуль там канчаткова ўсё не страчана», — кажа Галіна Балінская з аддзела культуры Ашмянскага райвыканкама.

Пакуль кляштарам зацікавіўся толькі адзін чалавек — мясцовы фермер Іван Кунюта. Ён жыве ў суседняй вёсцы Біюцішкі і разам з жонкай мае вялікую гаспадарку. Апроч сельскагаспадарчых працаў, Іван Іванавіч займаецца развядзеннем дзікоў, арганізуе паляванні і мае аграсядзібу «Садок».



**Кляштар стаіць за прыгожым касцёлам, у якім колісь служыў славуты Ян Матусевіч.**

«Мая першая задача — выратаваць будынак ад разбурэння. Я сам каталік і кожны раз, як прыязджаю ў касцёл, бачу, у якім занядбанні кляштар», — кажа ён.

Дарэчы, у Барунскай парафіі аб продажы кляштара пакуль нічога не чулі.

Апроч аднаўлення кляштара базыльянаў, спадар Кунюта адраджае сядзібу пісьменніка і філамата Антонія Эдварда Адзінца, які вучыўся ў павятовай базыльянскай школе ў Барунах.

**Адар'я Гуштын, tio.by**



**Кляштар стаіць занядбаны. Арт-сесія ў кляштары — фота Андрэя Рогача з anr0.livejournal.com.**

## Лявон Вольскі. Сто гадоў самоты

На канцэрце ў Нью-Ёрку, у бруклінскай кавярні Status Quo Ante Lounge, Лявон Вольскі праспяваў новую песню «Сто гадоў самоты».

Сто гадоў самоты. Невядома, ці то вера ўваскрэсне?
Сонца над балотам, за калючым дротам здратавалі песні.
Дзе ты, мой свет? Дзе ты, мой край?
Дзе ты, мой смех? Хто цябе скраў?

**Прыпеў:**
Маё каханне, пакажы мне шлях дадому.
Маё каханне, не давай мне ўпасці долу!
Маё каханне, маё каханне...

Вечнае блуканне, і ніхто табе нічога не параіць.
Тут канфлікт лакальны, усе схільныя абразіць ды параніць.
Вораг заўжды раіць папіць
Мёртвай вады з чорных крыніц.

Маё каханне, пакажы мне шлях дадому.
Маё каханне, не давай мне ўпасці долу.
Маё каханне, маё каханне...

Сто гадоў самоты, сто гадоў гульні ў самаабарону.
Вораг кіне змовы, сябра ў звера ператворыцца раптоўна.
Ён прынясе шарай парой
Чару табе з чорнай вадой.

Маё каханне, пакажы мне шлях дадому.
Маё каханне, не давай мне ўпасці долу.
Маё каханне, маё каханне...

# Вясна-красна




**18 красавіка ў КЗ «Мінск»** гурт J:МОРС прадставіць акустычную праграму «Вясна-красна». Пачатак а 19:00. Білеты ад 50 да 150 тысяч. Даведкі па тэлефонах: (+375 17) 328-66-38, (+375 29) 680-54-72.

## ФУТБОЛ

### 5 тур

**У суботу 14 красавіка** адбудуцца матчы чарговага тура Чэмпіяната Беларусі па футболе. Сустракаюцца:
«Славія» (Мазыр) — «Нафтан» (Наваполацк),
«Мінск» — «Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна),
«Белшына» (Бабруйск) — «Шахцёр» (Салігорск),
«Брэст» — «Дынама» (Мінск),
БАТЭ (Барысаў) — «Нёман» (Гродна).

## ІМПРЭЗЫ

### Музычна-літаратурная імпрэза «Авансцэна»

**14 красавіка а 19-й у Палацы мастацтва (Казлова, 3)** — музычна-літаратурная імпрэза «Авансцэна». У праграме — кампазіцыя «Ноч з днём пасярэдзіне» — сумесная праца групы «Князь Мышкін» і паэтаў Віктара Жыбуля і Веры Бурлак паводле малавядомай беларускай паэзіі 1920—1930-ых; цыкл кампазітара Канстанціна Яськова Ludus Mobilis у выкананні Belarus Modern Ensemble .

## КАНЦЭРТЫ

### «Байла марэна!» ў Мінску

**17 красавіка ў Палацы Рэспублікі** легендарны італьянец Zucchero прэзентуе новы альбом Chocabeck! («Шчоўкаць дзюбай»). Творчасць італьянскага спевака Адэльма Фарначары, больш вядомага як Zucchero, спалучае класічную італьянскую мелодыку і рытм-н-блюзавы напор. Цяжка знайсці радыёслухача, які ніколі не чуў яго хіт Baila Morena. Пачатак канцэрта а 19.00. Квіткі каштуюць ад 190 тысяч да мільёна рублёў.

### Пятніца—13

**13 красавіка а 19-й у «Салтайме» (пр.Незалежнасці, 131/1)** — канцэрт «Пятніца — 13». Бяруць удзел: «Рокаш», «Верасень», Maddy Daddy Band.

### HITT

**11 красавіка а 20-й у RE:Public (Прытыцкага, 62)** — HITT (Японія). HITT камбінуе ў сваіх музычных творах рок-рытмы і джазавыя балады. Сам артыст характарызуе свой стыль музыкі як «фартэпіяна-рок».

### Hard Life — Heavy Music

**13 красавіка ў 17.30 у Re:Public** — Hard Life — Heavy Music.

### Noize MC

**Адзін з найлепшых расійскіх фрыстайлераў — Noize MC 14 красавіка выступіць на пляцоўцы мінскага клуба Re:Public. Пачатак — 18.00.** Квіткі: 150 тыс. (папярэдне). Набыць квіткі можна ў клубе або па т.: (+375 29) 276-65-80, 110-35-35.

### Тузін Unplugged: «Стары Ольса» і...

**15 красавіка а 18-й у «Графіці»** — Тузін Unplugged: «Стары Ольса» і...

## ВЫСТАВЫ

### Свет лялечнага тэатра

**Да 13 красавіка ў Гасцёўні Уладзіслава Галубка (Старавіленская, 14)** працуе выстава, прымеркаваная да юбілеяў мастака Аліны Фаміной і галоўнага рэжысёра Беларускага дзяржаўнага тэатра лялек Аляксея Ляляўскага.

### Living Colour

**Да 26 красавіка ў Гістарычным музеі (Маркса, 12)** працуе выстава жывапісу Living Colour. На выстаўцы Living Colour прадстаўлены работы розных мастацкіх накірункаў — ад рэалізму да абстракцыянізму. Галоўнае, што іх аб'ядноўвае — любоў да колеру. Менавіта фарбы і колер выконваюць тут вядучую, саліруючую партыю.

### Музыка вясны. Знакамітыя актрысы XXI стагоддзя

**Да 14 красавіка ў Музеі гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны, 5)** працуе выстава, прысвечаная творчасці беларускіх артыстак музычнага тэатра.

### Чатыры пакаленні беларускага экслібрыса

**Да 15 красавіка ў «Кніжным салоне» (Калініна, 5)** працуе выстава «Чатыры пакаленні беларускага экслібрыса». У экспазіцыі — працы мастакоў Арлена Кашкурэвіча, Генадзя Грака, Юрыя Якавенкі, Рамана Сустава.

### Цяжкае дзяцінства

**Да 17 красавіка ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (пл.Кастрычніцкая, 1)** працуе выстава аўтарскай цацкі Таццяны Гомзы «Цяжкае дзяцінства». Для стварэння цацак Таццяна Гомза выкарыстоўвае самыя розныя матэрыялы — металічныя дэталі бытавых прыбораў, якія выйшлі з ужывання, шрубкі, балты і гайкі, мэблевыя колы, пластык і дрэва, тэкстыль — усё што заўгодна.

### Мая сям'я

**Да 21 красавіка ў мастацкай галерэі Л.Шчамялёва** працуе выстава «Мая сям'я». Усе працы, прадстаўленыя на выставе, — уласнасць мастака і членаў ягонай сям'і.

### Чырвоны каларыт

**Да 26 красавіка ў Палацы мастацтва** працуе мастацкая выстава жывапісу «Чырвоны каларыт». Чырвоны — колер жыцця, крыві, сонца, полымя, кахання, прыгажосці, актыўнасці… Ён жа — колер агрэсіі, смерці, жарсці, распусты, небяспечнасці, агню. Прыгнятае. Што выбраць — кожны вырашае сам…

### Трапічныя мятлушкі

**Да 22 красавіка ў Доме-музеі I з'езда РСДРП** працуе выстава жывых трапічных мятлушак. На выставе можна ўбачыць мятлушак з Паўднёва-Усходняй Азіі, Аўстраліі і Амерыкі.



### Адпачынак-2012

**У выставачным цэнтры «Белэкспа» (Купалы, 27)** пройдзе традыцыйны кірмаш турыстычных паслуг «Адпачынак-2012». Тэматыка выставы: падарожжы, экскурсіі, транспартныя паслугі, спартыўны інвентар, страхаванне, санаторыі, гасцініцы, мапы, буклеты.

## ТЭАТРЫ

### 13 красавіка

**Юнага гледача** — «Майго юнацтва крылы»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»
**Купалаўскі** — «Не мой»
**Оперы і балета** — «Рамэа і Джульета»

### 14 красавіка

**Лялек** — «Марозка»
**Оперы і балета** — «Яўгеній Анегін»
**Беларускай драматургіі** — «Містар Розыгрыш»

### 15 красавіка

**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»

### 16 красавіка

**Купалаўскі** — «Старамодная камедыя»
**Купалаўскі** — «Пінская шляхта»

### 17 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Свята Вялічка з чырвоным яечкам. Адамавы жарты»
**Юнага гледача** — «Мешчанін у шляхецтве»
**Оперы і балета** — «Набука»

### 18 красавіка

**Беларускай драматургіі** — «Белы анёл з чорнымі крыламі»
**Юнага гледача** — «Тарас на Парнасе»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»

### 19 красавіка

**Лялек** — «Чаму старэюць людзі?»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Оперы і балета** — «Рыгалета»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»

### 20 красавіка

**Юнага гледача** — «Маленькі лорд Фаўнтлярой»
**Лялек** — «Драй швэстэрн»
**Купалаўскі** — «Чорная панна Нясвіжа»
**Купалаўскі** — «Вечар»
**Беларускай драматургіі** — «Янка Купала. Кругі раю»

### 21 красавіка

**Лялек** — «Жудасны пан Ау»
**Юнага гледача** — «Пані Завіруха»
**Беларускай драматургіі** — «Воўк-мараплавец»
**Беларускай драматургіі** — «Ліфт»
**Купалаўскі** — «Паўлінка»

### 22 красавіка

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Лялек** — «Вясёлы цырк»
**Оперы і балета** — «Чыпаліна»
**Оперы і балета** — «Травіята»
**Купалаўскі** — «Ноч на Калядаы»

## КІНО

### Спачуванне тытанаў

**Гнеў тытанаў** (Wrath of the Titans) ЗША, 2012, каляровы, 99 хв, 3D
**Рэжысёр:** Джонатан Лібесман
**Ролі выконваюць:** Сэм Уортынгтан, Лаям Нісан, Ральф Файнс, Разамунд Пайк, Біл Наі, Тобі Кебэл
**Жанр:** гераічнае фэнтэзі
**Адзнака:** 4,5 (з 10)

Багі слабеюць і губляюць кантроль над Тартарам. Бог падземнага царства Аід у змове з богам вайны Арэсам знявольвае Зеўса, каб аддаць уладу старажытнаму Кронасу. Сын Зеўса Персей разам з Андрамедай і братам Агенорам адпраўляецца ў Тартар да зняволенага бацькі. Героі мусяць не дапусціць вызвалення Кронаса, які знішчыць усё чалавецтва. Аграмадныя жывыя цыклопы, вогненны трохгаловы сабака, вулканічна-сцарнелы Кронас з ахвотай шчэмяцца на экран — і ўсяляк шкодзяць героям. Персей і Андрамеда, якія і не падазравалі пра сучасныя галівудскія подзвігі, тандэтна падыгрываюць, дэманструючы завучаныя ўсмешкі. Дуэт Лаяма Нісана і Ральфа Файнса, якія, граюць Аіда і Зеўса, ажыўляе фільм. І нечакана гучыць тэма даравання і прабачэння, пра што антычныя небажыхары і не здагадваліся. Дзве тысячы гадоў хрысціянства, прынамсі, для Галівуда, дарэмнымі не былі.

**Андрэй Расінскі**



# Настальгія па дэфіцыце

Мінчукі сабралі выставу савецкага адзення «**Пасляваенная вясна**».



Каб набыць сукенку дачцэ, маці давялося некалькі разоў здаваць кроў »

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

У музеі Вялікай Айчыннай вайны праходзіць выстава «Пасляваенная вясна», на якой можна ўбачыць жаночае адзенне і аксесуары 1940-х — 1960-х гадоў. Карэспандэнты «Нашай Нівы» адправіліся на выставу, дзе ўбачылі сапраўдны савецкі хэнд-мэйд і адчулі пах «Чырвонай Масквы».

«Гэтая сукенка прывезена з ГДР, і каштавала яна вельмі шмат, — кажа арганізатарка выставы Алена Сямашка. — Каб яе набыць сваёй дачцэ, адной жанчыне давялося некалькі разоў здаваць кроў — каб сабраць грошы».

У невялікай зале на другім паверсе музея ВАВ і месціцца «Пасляваенная вясна», афішы якой у вагонах метро прымушаюць узгадаць рэкламныя савецкія плакаты 1950-х і фільмы кшталту «Каралева бензакалонкі».

Што праўда, жаночае адзенне і аксесуары з выставы маюць слабое дачыненне да савецкай вытворчасці. «Усе гэтыя рэчы людзі рабілі самі альбо прывозілі з-за мяжы, — расказвае Алена Сямашка. — Мы далі абвесткі на сайтах, у газетах. У выніку мінчукі прынеслі нам 600 розных прадметаў, на жаль, яны тут не змясціліся».

Тут можна выдатна адчуць тыя часы, калі замест цёмных акуляраў выкарыстоўваліся насадкі на звычайныя, скураны абутак можна было толькі замовіць (скураныя туфлі з выставы прывезеныя з Сахаліна), а сумачкі для паходу ў тэатр трэба было рабіць сваімі рукамі. Што цікава, большасць рэчаў вось гэтага савецкага «хэнд-мэйда» выглядаюць амаль не састарэлымі, асабліва на фоне адзення, якое можна было набыць у тагачасным ГУМе.

Прывезеныя з фронту срэбраныя ўпрыгожванні, кітайскія вееры, якія «даставалі» ў рэдкіх замежных паездках, — усе прадметы раскладзеныя па тэматычных блоках. Каля тэатральных бінокляў «Мінск» можна ўбачыць «тэатральныя боты», якія абуваліся на туфлі, а ўжо ў вестыбюлі складваліся ў авоську (якая на выставе таксама ёсць), а пасля здаваліся ў гардэроб.

Асноўнае ўражанне, што застаецца ад выставы, заключаецца ў тым, што прыгожа жыць, вядома ж, не забароніш, але можна зрабіць так, каб знайсці густоўную вопратку стала свайго роду подзвігам.

«Вось гэта, напрыклад, нямецкія панчохі — рэдкасць страшная, — кажа Сямашка. — Большасць савецкіх жанчын малявалі шво на назе алоўкам. Альбо вось гэты, ужо забыты від вопраткі — манішка. Калі не было кашулі, апраналі манішку, якая стварала ілюзію кашулі».

Побач з адзеннем можна ўбачыць і ўсялякія артэфакты эпохі хрушчоўскай адлігі: кнігі па стварэнні адзення сваімі рукамі, падручнікі па вышыўцы і нават вялікі рарытэт таго часу — часопіс Vogue за 1950. Тут можна даведацца ці ўзгадаць пах парфумы «Чырвоная Масква» — гэтая рэч была іміджавай, таму ёй адводзіцца асобны столік.

«У нас проста нечакана шмат наведнікаў, — кажа Сямашка. — У выходныя бывае да 250 чалавек за дзень. Выстава будзе доўжыцца ўсю вясну, а пасля, калі людзі будуць ісці далей, працягнем яе на лета».

**Юрась Ускоў**



Шчаслівая гаспадыня і кот

# Кот пайшоў пагуляць — і вярнуўся праз 16 гадоў

**Неверагодная гісторыя** здарылася ў Германіі.

У нямецкай Баварыі здарылася незвычайная гісторыя — быў знойдзены кот, які прапаў яшчэ 16 гадоў таму. Рудога ката знайшлі ў лесе каля Мюнхена. Жывёліна выглядала патрапанай жыццём, у яе адсутнічала частка зубоў, якія выпалі ад старасці, і прыкметна схуднелай, таму яе адразу ж здалі ў мясцовы прытулак.

Кот лёгка пайшоў на кантакт з людзьмі, і супрацоўнікі прытулку заўважылі ў яго на вуху апазнавальны знак, маленькую татуіроўку з нумарам.

Нумар праверылі. Аказалася, што гэта быў кот па мянушцы Польдзі, які знік з хаты сваёй гаспадыні ў суседнім з Мюнхенам гарадку яшчэ ў 1996. Прытулак адразу ж звязаўся з уладальніцай ката, і тая была проста агаломшана навіной аб знаходцы свайго гадаванца. Польдзі згубіўся, калі быў яшчэ зусім малым кацянём, яму было ўсяго 5 месяцаў. Па словах работнікаў прытулку, яны не маглі прыгадаць падобнага выпадку, каб жывёла і гаспадар уз'ядналіся пасля стольких гадоў.

**nn.by**

# У Лондане дабудавалі самы высокі будынак у Еўропе

**310-метровы** хмарачос пабудаваны да Алімпійскіх гульняў.



У Лондане скончылася будаўніцтва 72-павярховага хмарачоса Shard London Bridge. Будынак, вышыня якога складае 310 метраў, стаў самым высокім у Еўрасаюзе і 45-м па вышыні ў свеце. Унутры вежы будуць знаходзіцца офісы, рэстараны, пяцізоркавы гатэль. Хмарачос пабудаваны спецыяльна да Алімпійскіх гульняў і юбілею праўлення Лізаветы II.

Хутчэй за ўсё, Shard London Bridge нядоўга прабудзе найвышэйшым будынкам Еўропы. У Парыжы да 2016 павінны дабудаваць 320-метровую Hermitage Plaza.

**ЯМ**

## Сцісла

### Інтэрнэт-крамы абавязаныя

Цяпер інтэрнэт-крамы абавязаныя прадастаўляць пакупнікам магчымасць разлічвацца за тавары праз банкаўскія карткі, касы банкаў і паштовыя аддзяленні. Гэта прадугледжана пастановай Савета міністраў № 291 ад 30 сакавіка.

### «Укантакце» перакладаюць на беларускую мову

Актывісты працягваюць пераклад інтэрфэйса на афіцыйны правапіс. Пераклад на тарашкевіцу ўжо існуе. З дапамогай добраахвотнікаў каардынатары спадзяюцца скончыць працу за 1-2 месяцы. Далучыцца да перакладу можна ў суполцы http://vk.com/bellang.

### У Беларусь вярнуліся буслы

Іх вяртанне адбылося на два тыдні раней, чым звычайна.

### Тэлевізар ад Apple назавуць iPanel

У канцы года ў продажы з'явяцца тэлевізары вытворчасці вядомай амерыканскай кампаніі Apple. Гэта будзе медыяцэнтр, камп'ютар і цэнтр кіравання домам. Ён будзе рэагаваць на рухі і голас гаспадара. Кошт прылады будзе складаць $1250.

**ЯМ**




**Хрыстос Уваскрос! Свята-конкурс «Велікодная пісанка» прайшло ў Стоўбцах 7 красавіка.**



**Патрыярх, якога лёгка называць «Свяцейшым». Патрыярх Сербскі Павал прынцыпова ездзіў на грамадскім транспарце.** **Старонка 9.**



**Былая міліцыянтка Раіса Дзейкун прыдумала «бульбаёсціка». Першая партыя пацешных цацак-сувеніраў выпушчана на прыватным унітарным прадпрыемстве «Вясёлка» ТАА «Актамір» у Гомелі. На вытворчасці спадзяюцца, што гэта цацка здольна стаць нацыянальным брэндам.**




**Герб Беларусі ў выглядзе Бермудскага трохкутніка. Такі герб Беларусі вісіць у кабінеце намесніка прэм'ер-міністра Анатоля Тозіка.**

## Анекдоты

* * *

Перазімавалі зіму, перазімуем і вясну.

* * *

Пытанне Ашмянскаму радыё: ці праўда, што ідэалагічна правільна фарбаваць яйкі на чырвона-зялёнае?

Адказ: абсалютна правільна. Толькі не на Вялікдзень, а на 3 Ліпеня.

* * *

Калі прадаваўся «Белтрансгаз», то кіраўнік краіны казаў, што гэта проста ржавая труба. Дык вось, я чуў, што «Беларуськалій» — гэта ўсяго толькі пару дзірак у зямлі...

* * *

З прычыны ўмоў надвор'я каты перанеслі сакавік на красавік.

* * *

Айцец Кірыл збіраў ахвяраванні на новы храм, але за тры гады ахвяраванняў хапіла толькі на новы «Брэгет».

* * *

На экраны кінатэатраў выходзіць фільм «Тытанік» у 5D. Гледачам рэкамендуецца мець з сабой акваланг.

* * *

Пуцін двойчы тэлефанаваў у Мінск. Першы раз ён сказаў «выпускай», другі — «мірыся».

## «НН» сто гадоў таму

**Амерыканцы пабудавалі аграмадны параход — «Тытанік»** — дзеля перавозкі пасажыраў з Амерыкі у Еўропу. Гэта быў якбы цэлыны горад: пяць тысяч душ забіраў параход. Здавалася, што на ім ужо няма чаго баяцца няшчасця. І вось колькі дзён таму назад гэты велікан выйшаў у мора. Ехалі найбольш амерыканскія мільёншчыкі. На параходзе банкетавалі, іграла музыка. Разам у ночы, калі ўсе паснулі, параход наляцеў на аграмадную ледзяную гару, і ўвесь перад яго разбіўся ў шчэпкі.

Сэрца кожнага чалавека халадзее ад апісання гэтага няшчасця; але розум не пададецца яму: чалавек з новай сілай бярэцца да працы, каб запанаваць над усёй прыродай.

**«НН». №15-16. 1912**

**Нобелеўскі лаўрэат Чэслаў Мілаш да суда над газетай «Пагоня»:** «Перасылаю ўсёй рэдакцыі словы павагі і прызнання за Вашу трываласць. Беларусь ёсць часткай Еўропы, і калі ў Беларусі што-небудзь дзеецца, гэта не можа пакідаць абыякавым нікога з жыхароў іншых краін. Я перакананы, што справа, якой Вы служыце, пераможа раней ці пазней».

**«НН». №14. 2002.**


**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснік галоўнага рэдактара — Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8005. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 10.04.2012.
Замова № 1576.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12